Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 34 (4885) 26 жніўня 2016 г.



# Чытаць, каб не страціць

## Пісьменнік Уладзімір Мазго ўганараваны медалём Францыска Скарыны

**Дзяржава годна ацэньвае плён айчынных пісьменнікаў. Паэт, перакладчык, эсэіст, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Нёман» Уладзімір Мазго даўно і руплівa працуе на літаратурнай ніве. Больш як трыццаць гадоў таму пабачыла свет яго першая кніга — зборнік паэзіі «Пад спеў крыніц». Далей былі «Вершаліна», «Марафон», «Анёл нябесны», кніга вершаў і эсэ «Сакавіны», выданні для дзяцей… Па-беларуску перастварыў казкі Ганса Хрысціяна Андэрсена і казкі народаў Аўстраліі. Творца руплівa працуе і як старшыня секцыі дзіцячай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

**А яшчэ Уладзіміра Мінавіча ведаюць як ініцыятара штогадовага свята беларускай песні і паэзіі «Сакавіны», якое праходзіць на яго малой радзіме, у гарадскім пасёлку Зэльва на Гродзеншчыне.**

**У 2005 годзе паэт стаў лаўрэатам прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры, у 2008-м адзначаны прэміяй «Залаты Купідон».**

Інтэрв'ю з Уладзімірам Мазго чытайце на старонцы 2 ▶


Фота БелТА.

*Падчас урачыстай цырымоніі ў Палацы Незалежнасці ўзнагароду Уладзіміру Мазго ўручыў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка.*

# Пошукі сяброў

**У першую суботу верасня 2007 года ў Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы Міністэрства інфармацыі Саюз пісьменнікаў Беларусі і тады яшчэ рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва» сабралі пісьменнікаў з розных краін. Сабралі, каб павесці размову пра еднасць культур, літаратур.**

Тады, у 2007 годзе, доктар філалагічных навук, славіст, перакладчык прафесар БДУ Іван Аляксеевіч Чарота заўважыў у сваім выступленні: «Сёння мы апынуліся ў сітуацыі, калі самі сабе ўнушылі, што ўсё вызначае рынак. Што сёння тыя, хто чытае, не мае грошай, а тыя, хто грошы мае, не мае ані жадання, ані патрэбы чытаць. Але ж не толькі багатыя робяць крокі па сцвярджэнні нашай славянскай еднасці... » З таго часу мінула ўжо дзевяць гадоў. У Мінску ў Нацыянальнай бібліятэцы ладзіцца дзясяты па ліку круглы стол з удзелам замежных пісьменнікаў...

За гэты час у Беларусь для дыялогу пра ролю мастацкай літаратуры ў свеце, пра значнасць яе ўплыву на развіццё грамадства прыязджалі пісьменнікі, літаратуразнаўцы з Балгарыі, Польшчы, Літвы, Латвіі, Украіны, Расіі, Чарнагорыі, Сербіі, Арменіі, Азербайджана, Таджыкістана, Грузіі, Малдовы... І кожны год нешта прыўносіў у работу пісьменніцкай грамады Беларусі, у дзейнасць дзяржаўных і прыватных кніжных выдавецтваў, у тэматычную прастору літаратурна-мастацкай перыёдыкі нашай краіны.

Дыскусіі, размовы пра надзённае — высокае і прыземленае — сталі падставай для канструктыўных рашэнняў і рэалізацыі добрых спраў.

Найперш варта сказаць пра пашырэнне перакладчыцкіх памкненняў беларускіх літаратараў. Сама ідэя сустрэч за круглым сталом нагадала вартасці інтэграцыйнай работы ў творчых асяродках у межах краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Пасля развалу СССР гэта надзвычай актуальна. Тым больш што 25 гадоў пасля 1991-га і ўсяго, што вынікае з таго і папярэдніх савецкіх гадоў, адлюстроўваюць многія пралікі і непаразуменні... Па-другое, сустрэчы, з'яўленне новых сяброў, «рэвізія» ранейшых добрых зносін дапамаглі і дапамагаюць не згубіць сцежкі беларускага мастацкага слова ў іншы Сусвет. Не так лёгка разгледзець сёння на адлегласці, што ж зрабілася з часопісамі, выдавецтвамі, творчымі аб'яднаннямі ў той ці іншай краіне. Да каго і з якімі клопатамі можна звяртацца? На каго абаперціся?.. Ранейшыя сувязі, як паказаў час, страчаны. Па-трэцяе, як разгледзець рэальны стан і сапраўдныя сэнсы зробленага ў чужаземнай мастацкай прасторы. Масква, Літаратурны інстытут імя М. Горкага, часопіс «Дружба народов» — некалі іх атаясамлялі з цэнтрамі, некалі праз іх сілкаваліся мастацкай энергетыкай, якую вылучалі нацыянальныя літаратуры. А сёння?..

Рэчаіснасць, на вялікі жаль, прынізіла статуснасць гэтай прасторы, адзінства якой цэментаваў цэнтр. Вось і кіравала арганізатарамі мінскіх сустрэч жаданне не згубіць зусім ранейшыя традыцыі, ранейшы вопыт зносін, ды яшчэ дадаць нешта новае. Не дзіўна, што, арганізоўваючы сустрэчы пісьменнікаў у Мінску (а яшчэ і ў Смаргоні, Быхаве, Шчучыне ды іншых гарадах), гаспадары заўсёды абапіраліся на калег з Масквы і Санкт-Пецярбурга, іншых рэгіёнаў Расійскай Федэрацыі. І цяпер, з вышыні часу, застаецца толькі падзякаваць Валерыю Казакову, Сяргею Кандыбовічу, Алесю Кажадубу, Любові Турбіной, Вячаславу Купрыянаву, Вадзіму Дулепаву, Уладзіміру Бяразеву, Юрыю Лошчыцу, Уладзіміру Крупіну, Аляксандру Казінцаву, народнаму паэту Татарстана Роберту Мінуліну, народнаму паэту Татарстана Рэнату Харысу, народнаму пісьменніку Удмуртыі Вячаславу Ар-Сяргі... Іх удзел у дыскусіях, выкладанне ініцыятыў і многіх прапаноў заклалі выдатны падмурак на будучыню.

Працяг тэмы на стар. 5 ▶

## Пункцірам

✔ Больш як сто юных талентаў з Беларусі і Расіі прайшлі майстар-класы па музыцы і выяўленчым мастацтве для навучэнцаў спецыялізаваных навучальных устаноў Беларусі і Расіі пад дэвізам «Саюзная дзяржава — маладым талентам XXI стагоддзя». Вынік гэтай вучобы прадставілі публіцы, сярод якой былі Дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Рыгор Рапота, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Расіі Ігар Петрышэнка, намеснік міністра культуры Расіі Сяргей Абрывалін.

✔ Прэзентацыі і выстаўка да 100-годдзя з дня нараджэння народнага мастака СССР Яўсея Майсеенкі пройдуць у Мінску 28 жніўня. У гэты дзень адбудзецца прэзентацыя канверта з арыгінальнай маркай «Жывапіс Я. Я. Майсеенкі» з серыі «Жывапіс», будзе прадстаўлена кніга «Яўсей Майсеенка» з серыі «Знакамітыя мастакі з Беларусі», паказаны дакументальны фільм «Маналог мастака» рэжысёра Сямёна Арановіча і віртуальная выстаўка твораў Яўсея Майсеенкі «Я родам з дзяцінства». Праект падрыхтаваны Нацыянальным мастацкім музеем Беларусі сумесна з Дзяржаўным Рускім музеем.

✔ У Музеі беларускага кнігадрукавання рыхтуецца новая выстаўка — «Служэнне роднаму слову». Экспазіцыя прымеркавана да 1 верасня і прысвечана пісьменнікам-юбілярам гэтага года: Максіму Багдановічу, Цётцы, Змітраку Бядулю, Янку Журбе, Кандрату Крапіве, Міхасю Чароту, Івану Мележу, Івану Шамякіну, Нілу Гілевічу, Генадзю Бураўкіну, Васілю Вітку і інш. Можна будзе ўбачыць розныя выданні найбольш вядомых твораў гэтых аўтараў з фондаў музея.

✔ У Магілёве 11—15 кастрычніка адбудзецца V Міжнародны форум «Традыцыйная культура як стратэгічны рэсурс устойлівага развіцця грамадства». Чакаецца, што ў мерапрыемстве возьмуць удзел эксперты па традыцыйнай культуры больш як з 20 краін: Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Літвы, Аўстрыі ды інш. Цэнтральнай падзеяй стане правядзенне міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Песенная і танцавальная фальклорная спадчына: ад традыцый да сучаснасці».

✔ Адкрыты конкурс аматарскіх фільмаў імя Юрыя Тарыча «Я здымаю кіно» папоўніўся намінацыяй «1155-годдзю горада Полацка прысвячаецца…». Менавіта гэтую намінацыю сёлета арганізатары дадалі да традыцыйных намінацый — ігравое і дакументальнае кіно, анімацыя, сацыяльны кліп, музычны кліп, рэкламны ролік. Вітаюцца работы, прысвечаныя 500-годдзю беларускага кнігадрукавання і Дню беларускага пісьменства.

✔ Міжнародны пленэр па кераміцы «Арт-Жыжаль» праходзіць на базе адпачынку «Вербкі» пад Бабруйскам. У традыцыйным мерапрыемстве бяруць удзел 18 керамістаў з Беларусі, Латвіі, Малдовы, Расіі, Украіны, Славакіі і Эстоніі. Сёлетні «Арт-Жыжаль» праходзіць 14-ы раз і прысвечаны Году культуры. Яго вынікам стане выстаўка ў Бабруйскім мастацкім музеі.

✔ У Гомелі і Рагачове ў мінулыя выхадныя на маршруты выйшлі два «паэтычныя» аўтобусы. У іх салонах падчас руху па звычайных гарадскіх маршрутах гучаць вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча. Суаўтары арыгінальнага праекта, які стартаваў напярэдадні Дня беларускага пісьменства, — абласная ўніверсальная бібліятэка імя Леніна і ААТ «Гомельаблаўтатранс».

✔ Сёння ў Зэльве пачаўся фестываль «Ганненскі кірмаш», які ў XVIII ст. быў другім пасля Лейпцыгскага ў Еўропе па тавараабароце. Традыцыю правядзення фэсту аднавілі ў 2001 годзе. Сёлета «Ганненскі кірмаш» прапануе гасцям свята шмат цікавых мерапрыемстваў, сярод якіх — канцэрт, фэст фарбаў, абрадавыя дзействы, выстаўка-продаж вырабаў майстроў народнай творчасці ды інш.

Працяг. Пачатак на старонцы 1.

# Чытаць, каб не страціць

**— Уладзімір Мінавіч, медаль Францыска Скарыны — высокая ацэнка вашай творчасці з боку дзяржавы. Што адчуваеце?**

— Атрымаць медаль Францыска Скарыны напярэдадні 500-годдзя беларускага кнігадрукавання — вялікая радасць і адначасова вялікая адказнасць для мяне. Значыць, нездарма больш як тры дзясяткі гадоў сваёй творчай дзейнасці прысвяціў працы ў выдавецтвах «Юнацтва», «Мастацкая літаратура», а цяпер — у Выдавецкім доме «Звязда». Значыць, нездарма выдаў сямнаццаць уласных кніг для дарослых і для дзяцей, а колькі адрэдагаваў — цяжка і палічыць. Значыць, у далейшым трэба апраўдаць высокую ўзнагароду яшчэ больш плённай працай.

**— Якую з напісаных вамі кніг лічыце самай значнай, самай дарагой для сябе?**

— Паверце, для пісьменніка кнігі, як яго дзеці, усе дарагія. Вельмі цяжка і складана аддаць перавагу нейкай адной. А вось што датычыць самай значнай…

Са сваіх дзіцячых кніг я, напэўна, назаву «Адвечныя скарбы Радзімы», дзе ёсць паясы беларускай красы і нават восьмы цуд свету.

Ну і, канечне ж, аднатомнік выбраных твораў «У нябёсах вясны», які складаюць вершы, балады, песні, казкі, адрасаваныя дарослым і дзецям. Дарэчы, хто захоча пазнаёміцца з імі бліжэй, можа звярнуцца адпаведна ў Выдавецкі дом «Звязда» і выдавецтва «Чатыры чвэрці».

**— Якія праблемы сёння найбольш хвалююць вас як дзіцячага пісьменніка?**

— Ужо некалькі гадоў я ўзначальваю секцыю дзіцячай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі. У склад бюро ўваходзяць як старэйшыя нашы пісьменнікі, так і маладыя. Мы рэгулярна збіраемся разам, каб абмеркаваць усе злабадзённыя і праблемныя пытанні. Сёлета ажыццявілі сумесны праект з расійскім дзіцячым часопісам «Мурр+» (г. Калінінград), дзе выйшаў нумар, прысвечаны Беларусі. Праводзім сустрэчы з юнымі чытачамі, прэзентацыі кніг, удзельнічаем у розных акцыях не толькі ў сталіцы, але і ў іншых рэгіёнах нашай краіны. Напрыклад, гэтай вясной творчы дэсант у складзе пісьменнікаў Міколы Чарняўскага, Генадзя Аўласенкі, Яны Явіч і спевака Вячаслава Статкевіча ўзяў актыўны ўдзел у свяце паэзіі і музыкі «Зэльвенскія сакавіны» на Гродзеншчыне. Нядаўна мне давялося наведаць дзіцячыя бібліятэкі Гомеля, Магілёва, Зэльвы, Маладзечна, Нясвіжа, сустрэцца са школьнікамі ды іх бацькамі. Радуе тое, што многія дарослыя і дзеці далучыліся да рэспубліканскай акцыі «Сямейнае чытанне».

Хочацца, каб добрая дзіцячая кніга на роднай мове назаўсёды прапісалася ў кожнай сям'і, дзе ёсць дзеці. Каб нашы школьнікі ў вольны час не лавілі пакемонаў, а чыталі кнігі. Інакш мы рызыкуем страціць юнае пакаленне.

**— Што можаце сказаць пра сучасны ўзровень айчыннай літаратурна-мастацкай перыёдыкі?**

— У многім ён залежыць ад узроўню прафесіяналізму супрацоўнікаў і аўтараў выданняў. Безумоўна, кожнае з іх імкнецца падтрымліваць належны сучасны ўзровень, выхоўваць мастацкі густ сваіх чытачоў. Іншая справа, што атрымліваецца ў кожнага па-рознаму: у некага трохі лепш, а ў некага — горш…

Сучаснае тое, што незалежна ад змены пакаленняў некаторыя старэйшыя літаратурна-мастацкія выданні, набыўшы новае аблічча, захавалі свае найлепшыя традыцыі. У якасці прыкладу варта згадаць часопісы «Полымя» і «Нёман». Акрамя найлепшых узораў айчыннай літаратуры, яны надаюць вялікую ўвагу сусветным шэдэўрам. Нездарма мастацкія пераклады здавён з'яўляюцца мастамі дружбы паміж братнімі народамі.

**— Для каго больш складана пісаць — для дзяцей ці для дарослых?**

— Калі пісьменніка наведае натхненне — пішацца, як і дыхаецца, лёгка, незалежна ад узросту будучых чытачоў.

**Арына КРАЙКО**

## Імя ў гісторы

# З гонарам за земляка

### 210-гадовы юбілей Напалеона Орды іванаўцы пачалі адзначаць ужо сёлета ў жніўні

Увёсцы Варацэвічы на месцы былой сельскай школы раскінуўся музейны комплекс мастака і кампазітара Н. Орды, які ўключае ў сябе карцінную галерэю, музей, а таксама па-мастацку аформленую і дагледжаную тэрыторыю. Часткай комплексу з'яўляецца і дом Напалеона, узведзены на падмурку былой сядзібы (адзінае, што захавалася ад яе) за некалькі кіламетраў ад вёскі ў згаданым вышэй урочышчы Чырвоны Двор. У зале музея адбыўся творчы дыялог пад назвай «Вяртанне сваім я вам абавязаны».



Падчас святкаванняў у музейным комплексе Н. Орды.

Здавалася б, за некалькі дзесяцігоддзяў гэтая знакавая ў гісторыі Беларусі і ўсёй Еўропы асоба ўвекавечана дастаткова: імя Орды носяць вуліцы ў Мінску, Гродне, Брэсце, Іванаве; на сцяне дома № 9 на вуліцы Людовіка Вялікага ў цэнтры Парыжа, дзе ён жыў больш за два дзясяткі гадоў, устаноўлена мемарыяльная дошка. Знакаміты аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам М. Фінберга заснаваў новы рэгіянальны музычна-асветніцкі фэст «Гасцёўня Напалеона Орды» ў Іванаўскім раёне. У Іванаве яго імя прысвоена мясцовай школе мастацтваў. А на месцы пахавання ў радавым склепе на старадаўніх могілках пры выездзе з Іванава ў бок Пінска ўстаноўлены памятны знак. У цэнтры горада на стыку галоўных вуліц Савецкай і Леніна красуе бронзавы помнік, створаны выдатным беларускім скульптарам Ігарам Голубевым. Яшчэ адзін знак з надпісам «Мясціны Напалеона Орды» ўпрыгожвае развілку на шашы Кобрын — Гомель: тут — паварот на Варацэвічы і ўрочышча Чырвоны Двор, дзе нарадзіўся і вырас Напалеон, ды і ў сталым узросце, пасля вяртання з Парыжа, жыў некаторы час…

На сустрэчы прыгадалі Сяргея Пятровіча Сыраежку, былога дырэктара Варацэвіцкай школы, які першы вынес імя Напалеона Орды на старонкі друку, а таксама былога дырэктара раённай бібліятэкі імя Панфёрава Надзею Раманюк ды былога сакратара райкама камсамола Сяргея Кушцеля, якія першымі пачалі пошукавыя работы ў архівах Беларусі і ў замежжы. Аляксандр Курыловіч распавёў пра тое, як яны з матуляй, Марыяй Мікалаеўнай, знайшлі надмагільную каменную пліту, на якой пазначаны гады і дні нараджэння ды смерці Напалеона Орды. Гэтая пліта была ў свой час элементам склепа Ордаў у Янаве-Іванаве, зараз захоўваецца ў Пінскім музеі Беларускага Палесся… Многія неабыякавыя асобы ўзялі на сябе адказнасць па ўшанаванні славутасці — пачынаючы ад усталявання памятных знакаў і завяршаючы ўзвядзеннем музейнага комплексу. Завяршылася імпрэза канцэртам пад адкрытым сонечным небам, які падарылі гасцям і сяльчанам артысты Іванаўскага цэнтра культуры і народных традыцый.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ**

***P. S.** Аўтар рыхтуе кнігу ўспамінаў сучаснікаў, што найбольш парупіліся пра вяртанне з нябыту Напалеона Орды, да яго 210-годдзя (11 лютага 2017-га). Каму ёсць што прыгадаць, да канца верасня дасылайце ўспаміны на электронны адрас akrejdzich@yandex.by.*

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**30 жніўня** — *на творчую сустрэчу з пісьменніцай Тамарай Бунта ў межах рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай» у сталічную кнігарню «Кніжкі & кніжэчкі» (пр-т Незалежнасці, 14). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**1 верасня** — *на творчую сустрэчу з пісьменніцай Янай Явіч у СШ № 77 (вул. Крупскай, 10). Пачатак у 8.30.*

**1 верасня** — *на літаратурны ранішнік з удзелам групы пісьменнікаў, прысвечаны новаму навучальнаму году, у СШ № 199 (вул. П. Панчанкі, 32). Пачатак а 8-й гадзіне.*

**1 верасня** — *у публічную бібліятэку № 5 (вул. Казлова, 2) на прэзентацыю праекта «Творчая сям'я», у межах якога адбудзецца сустрэча з сям'ёй паэтэсы Тацяны Шпартавай. Пачатак у 10.30.*

**1 верасня** — *на літаратурнае свята ў дзіцячую бібліятэку № 15 (вул. Слабадская, 27) з удзелам пісьменніка Валерыя Чудава. Пачатак а 11-й гадзіне.*

**1 верасня** — *у літаратурны клуб «Сябрына» пры гімназіі № 20 (вул. Адзінцова, 89) на творчую сустрэчу з паэтэсай Нінай Галіноўскай. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**1 верасня** — *на літаратурнае свята, прысвечанае Дню ведаў, з удзелам паэтэсы і барда Ганны Чумаковай у Цэнтральную гарадскую дзіцячую бібліятэку (пр-т газеты «Праўда», 20). Пачатак а 11-й гадзіне.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**27 жніўня** — *у «Паэтычную гасцёўню» з удзелам творцаў Гродзеншчыны ў межах «Ганненскага кірмашу-2016» (гарадскі пасёлак Зэльва Гродзенскай вобласці, летняя эстрада). Пачатак у 15.30.*

З нагоды

# Сшытак дзяцінства

**Новую кніжную серыю «Сяброўства без межаў», якую зладзіў для маленькіх чытачоў Выдавецкі дом «Звязда», хутка чакае папаўненне. Гэтым разам выходзіць зборнік апавяданняў і вершаў для дзяцей Касыма Нурбадава «Гулялек — чырвоны мак, або Тонкі сшытак».**

Туркменскі паэт, празаік і літаратуразнаўца стаў сябрам беларускай літаратуры ўжо даўно: творы пісьменніка траплялі да нашага чытача, а сам ён не раз перакладаў кнігі беларускіх аўтараў на туркменскую мову. Год таму ўнёсак Касыма Нурбадава ў наладжванне беларуска-туркменскіх творчых сувязей быў адзначаны медалём Саюза пісьменнікаў Беларусі «За вялікі ўклад у літаратуру». Сёлета яго словы зноў загучаць па-беларуску ў перакладзе Алеся Карлюкевіча і Юліі Алейчанка.

Так сталася, што туркменскі пісьменнік занатаваў у звычайным тонкім сшытку… дзяцінства. Так, дзяцінства вясковай дзяўчынкі Гулялек, імя якой квітнее, бы мак, схавалася паміж друкаванымі літарамі, пераўтварылася ў апавяданні і ўсміхаецца маленькім чытачам са старонак кнігі вясёлымі вершыкамі. Гулялек і яе малодшая сястрычка Гульнар разам пазнаюць сусвет, вучацца жыццёвым прамудрасцям праз зносіны з бацькамі. Як пакласці накрыўку, каб не збег суп? Як правільна апрацоўваць вінаград, каб штогод атрымліваць смачныя сакавітыя гронкі? А галоўнае — як вырасці сапраўдным Чалавекам? Адказ на апошняе, самае складанае пытанне ненавязліва раскрываецца падчас чытання. Узяць на сябе віну малодшай сястрычкі, каб тая пазбегла пакарання, дапамагчы старэнькаму дзядулю, прызнацца ў бяскрыўдным, але ўсё ж такі сапраўдным падмане…

Хітрыкі і жарты, крыўды і нагоды для радасці гарэзлівых дзяўчат выклікаюць шчаслівую ўсмешку. Увесь аповед прасякнуты бязмернай пяшчотай аўтара і любоўю да дзяцей. Ды і як можа быць інакш, калі Касым Нурбадаў —магнетычны бацька і дзед — добра знаёмы з унутраным светам маленькага чалавека?.. Але ў кнізе «Гулялек — чырвоны мак, або Тонкі сшытак» знойдуць параду і дарослыя. Пісьменнік дакладна ведае: сямейны дабрабыт — лепшы падарунак, які толькі могуць зрабіць мама і тата для свайго дзіцяці.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

Праекты

# Выйграй білет у музей!

Сёлета Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь актыўна працуе над рэалізацыяй новых, арыгінальных праектаў, сярод якіх не толькі выставачныя, але і музычныя, кінамерапрыемствы. У жніўні музей зноў здзівіў, рэалізаваўшы інтэрактыўны праект «Лазерны лабірынт», спецыяльна падрыхтаваны для дзетак з сацыяльна-педагагічных цэнтраў Мінска і прадстаўнікоў Беларускай асацыяцыі мнагадзетных бацькоў.

Асаблівасць праекта ў тым, што ён уяўляе сабой квест, які ўдзельнікі павінны прайсці ў стылі любімага кінагероя, персанажа з мультфільма альбо камп'ютарнай гульні. Падчас квеста дзеці сутыкаюцца з перашкодамі ў выглядзе лазерных прамянёў і вялікіх хмар. У выніку паспяховага праходжання лабірынта ўдзельнікі атрымліваюць магчымасць бясплатна наведаць тры выставачныя праекты Нацыянальнага гістарычнага музея, сярод якіх экспазіцыі «Ад рымскага дэнарыя да беларускага рубля», «79 прыступак у глыб гісторыі» і «Гандаль Беларусі на шалях гісторыі». У кожнага ўдзельніка ёсць пяць спроб, каб прайсці квест.

«Лазерны лабірынт» дае магчымасць сапраўдным аматарам камп'ютарных гульняў адчуць сябе ўнутры сістэмы і параўнаць, дзе лепш — у віртуальным свеце альбо ў рэальнасці. У выніку гульня не забаўляе наведвальнікаў, а становіцца нагодай і матывацыяй зноў апынуцца ў музейнай прасторы.

**Вікторыя АСКЕРА**

Імпрэзы

# Рыцарскія ўчынкі

## Сучаснае мастацтва шукае апірышча ў гісторыі



*Тадэвуш Рэйтан. Малюнак Леанарда Ходзькі.*

Вёска Грушаўка ў Ляхавіцкім раёне мае свой «Дах». Гэта назва фестывалю авангарднага мастацтва, прысвечанага памяці Тадэвуша Рэйтана, грамадскага дзеяча, пасла Вялікага Княства Літоўскага ў сойме Рэчы Паспалітай. Ён увайшоў у гісторыю як патрыёт, сапраўдны рыцар, гатовы ахвяраваць сабой дзеля захавання краіны, а адзін яго ўчынак сучасныя мастакі гатовыя разглядаць як першы перформанс у гісторыі беларускай культуры. Фестываль у яго гонар прайшоў у мінулыя выхадныя на радзіме героя, каб нагадаць пра неабходнасць аднаўлення гістарычнай сядзібы ў Грушаўцы.

— Арт-суполка імя Тадэвуша Рэйтана, якая з'яўляецца адным з арганізатараў фестывалю, ужо 4 гады вядзе барацьбу за вяртанне імя Тадэвуша Рэйтана беларускай культуры і за захаванне гістарычнай сядзібы, дзе ён нарадзіўся, ва ўласнасці дзяржавы, таму што былі планы яе перадаць у прыватную ўласнасць, — гаворыць Зміцер Юркавец, які разам з мастаком Алесем Родзіным стаў ініцыятарам прысвячэння мастацкага фестывалю славутаму прадстаўніку аднаго са старажытных беларускіх родаў. — Ёсць і пэўныя зрухі. Напрыклад, ідэя стварыць у сядзібе ў Грушаўцы Ляхавіцкуага раёна краязнаўчы музей, дзе было б ушанавана імя Тадэвуша Рэйтана. Немалую ролю ў прыняцці такога рашэння адыгралі мастацкія імпрэзы і летнікі, якія ладзяцца ў рамках фестывалю сучаснага мастацтва «Дах». Сёлета з летнікам дапамагло грамадскае аб'яднанне ІКАМОС. І так супала, што ў Ляхавіцкім раёне праходзіў адначасова мясцовы фестываль «З крыніц спрадвечных». Гэта была цудоўная магчымасць паказаць розныя бакі мастацкай творчасці на радзіме Рэйтана. Мы рабілі ўхіл на майстар-класы, напрыклад, па старажытных танцах часоў Міхала Клеафаса Агінскага, па музыцы. Цікава выступіў народны струнны ансамбль з Пружан «*Archi*». У Грушаўку прыехалі мастакі з розных гарадоў: Мінска, Баранавіч, Слоніма, Узды. Зміцер Шапавалаў даваў майстар-клас і прадставіў свае творы на гістарычную тэматыку. І далей важна прыцягваць увагу да Грушаўкі і гістарычнай сядзібы Рэйтанаў усёй грамадскасці нашай краіны, таму што не ўсе таямніцы жыцця гэтай асобы раскрытыя да канца. Дагэтуль вакол яго жыцця і смерці існуе шмат міфаў. Таму хацелася б, каб сказалі сваё слова і гісторыкі. Можна было б, напрыклад, правесці ў Ляхавічах Рэйтанаўскія чытанні.

**Марыя АСІПЕНКА**

Дайджэст

• Суд у Аргенціне расследуе прычыны гібелі Федэрыка Гарсія Лоркі. Размова ідзе пра знікненне паэта падчас грамадзянскай вайны ў Іспаніі паміж рэспубліканцамі і паўстанцамі генерала Франка. Галоўнай версіяй гібелі Лоркі лічыцца яго расстрэл франкістамі, бо паэт ніколі не хаваў сваіх сімпатый да рэспубліканцаў. Іск у суд пададзены Асацыяцыяй па аднаўленні гістарычнай памяці, якая функцыянуе ў Іспаніі. З тым жа іскам актывісты звярталіся ў суды сваёй краіны, аднак атрымалі адмову ў сувязі з тым, што ў Іспаніі дзейнічае закон аб амністыі. Да правасуддзя Аргенціны асацыяцыя звярнулася па некалькіх прычынах. У гэтай краіне Лорка быў некалькі разоў, яго п'есы тут прымалі з вялікім захапленнем. Таксама вядома, што суддзя Марыя Сервіні, якая прыняла іск да разгляду, актыўна займаецца справамі, якія маюць дачыненне да злачынстваў супраць чалавечнасці.

• На калумбійскіх банкнотах з'явіўся партрэт Габрыэля Гарсія Маркеса. Так краіна аддзячыла пісьменніку за папулярызацыю яе ў свеце праз раманы «Сто гадоў адзіноты», «Палкоўніку ніхто не піша» і іншыя. Намінал абноўленай купюры — 50 тысяч песа, што эквівалентна 17,5 долара ЗША. Прэзентацыя яе прайшла ў горадзе Аракатака, дзе нарадзіўся Маркес. На банкноце змешчаны не толькі профіль славутага земляка: на яе адваротным баку ёсць таксама малюнак пісьменніка, які, на думку дызайнераў, робіць адсылку да аднаго з раманаў Маркеса.

• Даўні судовы працэс, датычны архіваў Франца Кафкі, завяршыўся ў Ізраілі на карысць Нацыянальнай бібліятэкі гэтай краіны. Правы на спадчыннасць аспрэчвала сям'я сакратаркі Макса Брода, які быў сябрам Кафкі. Дочкі памагатай Брода сцвярджалі, што менавіта ёй Брод перадаў правы на свой архіў, у тым ліку і на рукапісы Кафкі. Аднак Вярхоўны суд Ізраіля прызнаў гэтыя аргументы недаказальнымі і аддаў перавагу Нацыянальнай бібліятэцы, прыняўшы пад увагу, што архіў Кафкі ёй перадаў сам Брод. Пры тым, што сам Кафка прасіў сябра знішчыць рукапісы, аднак той пасля смерці пісьменніка апублікаваў іх, а пазней вывез у Ізраіль, дзе і пачалася судовая цяжба, якая доўжылася восем гадоў. Бібліятэка абяцае неўзабаве наладзіць выстаўку рукапісаў Кафкі.

• Летам гэтага года ў Санкт-Пецярбургу мусіў з'явіцца помнік Віктару Цою, аднак падзею перанеслі яшчэ на год. Паведамляецца, што мерапрыемства мае патрэбу ў некаторых дадатковых працэдурах, і таму ўвосень у скверы, дзе мусіў знаходзіцца помнік Цою, пройдзе пасяджэнне членаў горадабудаўнічага камітэта Санкт-Пецярбурга. Яны плануюць азнаёміцца з тэрыторыяй сквера, каб зразумець, ці мае ён патрэбу ў добраўпарадкаванні. Што да самога помніка, сродкі на яго ўжо сабраны за кошт прыватных ахвяраванняў. Кіраўнікі фонду Цоя кажуць, што манумент можа быць адкрыты ў любы час, а прывязваць падзею да пэўнай даты ў біяграфіі музыканта не плануецца.

• Вядомы знаўца лесу Пітэр Вохлебен з Германіі напісаў кнігу «Таемнае жыццё дрэў», у якой распавядае пра іх сацыяльны лад. Кніга Вохлебена летась стала бестселерам на яго радзіме. У сваёй рабоце ляснічы прыцягвае ўвагу грамадскасці да праблемы лясоў і стаўлення да іх у наш час. Па меркаванні аўтара, сёння мы ўспрымаем лес як пэўнага «арганічнага робата», місія якога заключаецца ў забеспячэнні нашай патрэбы ў кіслародзе і драўніне. Вохлебен выказвае іншы пункт погляду, заснаваны на шматгадовых назіраннях і даследаваннях навукоўцаў. Аўтар даказвае, што дрэвы нельга лічыць пасіўнымі раслінамі, у іх ёсць сваё сацыяльнае жыццё, якое грунтуецца на ўзаемадапамозе і сяброўскіх адносінах.

Памяць

# Чалавека моцнага характару



Заслужаны артыст Беларусі Аляксандр Бяспалы, адзін з тых, хто карпатлівай працай і самаадданай любоўю да мастацтва ствараў аблічча беларускага нацыянальнага тэатра, памёр 22 жніўня. Яму было 68 гадоў. З 1973 года працаваў на кінастудыі «Беларусьфільм», з 1981-га — у Тэатры-студыі кінаакцёра. Таленавіты акцёр і рэжысёр быў чалавекам з моцным народным характарам, патрыётам. Увасабляў на сцэне шчырыя, блізкія людзям вобразы, поўныя чалавечнасці, аптымізму, мудрасці і дабрыні. «Усё яго жыццё», «Жаніцьба Бальзамінава», «Фантазіі паводле Гогаля», «Выкраданне Алены», «Мілы ілгун», «...Забыцць Герастрата!» — спектаклі, у якіх ён сыграў, шырока вядомыя і любімыя публікай. На яго рахунку таксама больш за 130 роляў у кінастужках розных краін. Адна з самых яркіх — у карціне «Ціхі Дон» Сяргея Бандарчука. Разам з калегам заслужаным артыстам нашай краіны Уладзімірам Грыцэўскім Аляксандр Бяспалы стварыў такія пастаноўкі, як «Вострaў нашай Любові і Надзеі», «Навечна ў памяці», «Поле бітвы». Развітанне і адпяванне майстра адбылося 24 жніўня ў мінскім Храме-помніку ў гонар Усіх Святых. Выказваем спачуванні родным і блізкім творцы.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць шчырыя спачуванні пісьменніцы Наталлі Віктараўне Савецнай з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці МУЖА.

# Нацыянальная літаратурная прэмія:

## знаёмімся з намінантамі

**Да Дня беларускага пісьменства застаўся тыдзень. Зусім хутка мы даведаемся, якія кнігі 2015 года экспертнае журы прызнае найлепшымі. У мінулым нумары мы пазнаёміліся з некалькімі прэтэндэнтамі на ўзнагароду: у намінацыі «Лепшы твор паэзіі» гэта Мар'ян Дукса, Змітрок Марозаў і Фёдар Гурыновіч. У прозе ў выніковы ліст трапілі Віктар Шніп і Яўген Хвалей. Ды яшчэ пяць празаікаў, з якімі мы будзем знаёміцца гэтым разам, і адзін драматург (што ставіць пытанне датычна стану сучаснай беларускай драматургіі).**

### ЯШЧЭ АДНА ПРЫСТУПКА




Калі гісторыя краіны распавядаецца праз шэраг прыватных гісторый, праз лёсы людзей, узнікае адчуванне нечага асабістага, сапраўднага цікавасць да аповеду. Жанр гістарычнага партрэта абраў для літаратурнай дзейнасці Алесь Марціновіч.

**Аўтар.** Цягам некалькіх гадоў ён працаваў над шматтомнай гісторыяй Беларусі ў асобах. «Цяпло колішніх вогнішчаў» — працяг серыі, у якой да таго налічвалася з дзясятак кніг. Варта згадаць, што ў 2006 годзе Алесь Марціновіч стаў лаўрэатам літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» у галіне крытыкі і літаратуразнаўства, а ў 2007-м узяў тую ж узнагароду за публіцыстыку. Сёлета ён прэтэндуе на прэмію ў намінацыі «Лепшы твор прозы».

**Твор.** У шматлікіх каталогах «Цяпло колішніх вогнішчаў» пазначаецца як выданне для дзяцей і юнацтва — перадусім якраз праз гэтую адукацыйную нотку. Але насамрэч кніга будзе цікавая аматарам гісторыі любога ўзросту. Жанравыя межы яе пралягаюць між гістарычнымі апавяданнямі і эсэ (нацяжка згадаўшы, што падзел умоўны і абодва вызначэнні справядлівыя для кожнага з тэкстаў). Як і раней, Алесь Марціновіч звяртае ўвагу не толькі на асоб даволі вядомых (прыкладам, маці Івана Грознага Алена Глінская, пра якую пісаў той жа Вітаўт Чаропка, класік у жанры гістарычнага партрэта). Спадар Алесь надае нямала ўвагі персанажам «замежным», чыя дзейнасць звязаная з гісторыяй Беларусі (аўтар першай украінскай канстытуцыі Піліп Орлік, першы расійскі пракурор Павел Ягужынскі, паплечнік Пятра І Пётр Шафіраў ды інш.). 600-старонкавы том збірае літаральна па нітачцы культурніцкія ўзаемасувязі, стварае аб'ектыўную гістарычную карціну, дзе краіны не адсечаная адна ад адной межамі. І ўсё гэта — у займальнай апавядальнай форме.

### НЕЗЛІЧОНЫЯ СКАРБЫ БАБРУЙСКА




Гродзенскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі разам з аблвыканкамам каторы год праводзіць конкурс рукапісаў імя Цёткі. Пераможцам другога такога конкурсу стаў Уладзімір Саласюк, аўтар кнігі «Тайна Бабруйскай крэпасці», якая цяпер вылучаецца на Нацыянальную літаратурную прэмію ў намінацыі «Лепшы твор прозы».

**Аўтар.** Стварэнне гісторыка-прыгодніцкага рамана для Уладзіміра Саласюка было ў нейкім сэнсе непазбежным: у дзяцінстве ён шмат часу бавіў у сценах той самай крэпасці, шукаючы напалеонаўскія скарбы. Раней Уладзімір Саласюк выдаў асобнай кнігай аповесць «Ад чэрвеня да ліпеня» пра антыфашысцкую падпольную арганізацыю, якая існавала ў Слонімскім гета ў часы Вялікай Айчыннай вайны. Спрабаваў сябе ў ролі драматурга (п'еса «Дзякуй ад Ізраіля»), аўтара фэнтэзі. Словам, шматстаночнік-журналіст, у творах якога абавязкова прысутнічае загадка.

**Твор.** «Тайна Бабруйскай крэпасці» — класічны гісторыка-прыгодніцкі раман. Ён ахоплівае два часавыя адрэзкі — 1812 і 1960-я гады. У аснове рамана палягае легенда пра незлічоныя скарбы, якія быццам бы захоўваюцца ў падземных хадах крэпасці. Аўтар шмат часу аддаў працы ў архівах, і ў выніку твор спалучыў гістарычныя факты і фантазію аўтара, прыдуманых персанажаў і рэальных людзей. Як кажа сам спадар Уладзімір, «Бабруйск не такі багаты на гістарычныя помнікі, таму неабходна больш увагі надаваць захаванню "жамчужыны" горада». Аўтар пазіцыянуе раман як твор для дзяцей і юнацтва, але думаецца, што ён прыцягне ўвагу шырокага кола чытачоў.

### СВЕТЛАЯ КНІГА ПРА ВАЙНУ?..

Такое бывае, калі аўтар фіксуе ўвагу не на стратах, а на маленькіх перамогах герояў, не на франтавых зводках, а на ціхім жыцці вёскі, якая хоча выстаяць і ратуецца гумарам.

**Аўтар.** Канстанцін Нілаў ужо значыўся ў пераможцах літаратурнай прэміі: аршанскі аўтар атрымаў «Залатога Купідона» ў намінацыі «Песенная лірыка» ў 2010 годзе. Цяпер ён выступіў з кнігай прозы.

**Твор.** «Вянок з параненых рамонкаў» змяшчае аповесці і апавяданні, для якіх цэнтральнай з'яўляецца тэма вайны. Але гэта фармальны бок. Насамрэч кніга пра людзей, у большасці вяскоўцаў і ў большасці з Аршаншчыны, якіх вырываюць з ціхага, уладкаванага жыцця і прымушаюць змагацца — з цяжкімі побытавымі ўмовамі, з акупанты, з самімі сабой. Гісторыі маюць трагедыйны падмурак. Аднак настрой Канстанцін Нілаў трымае аптымістычны, нават радасны. Гэтаму спрыяе найперш інтанацыя апавядальніка: ствараецца атмасфера ідылічнага вясковага вечара, у які галава сям'і распавядае дзецям гісторыі з баявога мінулага. Чаму дзецям? Стылістыка твораў знарочыста гутарковая, спрошчаная, набліжаная да наіву. І гэта падштурхоўвае чытача да эмпатыі, выклікае ў яго сімпатыю да героя, нават калі той ідэалізаваны, з блакітнымі-блакітнымі вачыма, шырокімі плячамі і пшанічным чубам. Проза Канстанціна Нілава — быццам сучасныя казкі, у якіх замест нечысці — акупанты, а замест бравага Несцеркі — героі штодзённасці: ваяўнічыя дзяды, кемлівыя бабулі, прагныя да прыгод падлеткі. Ёсць месца і прынцэсам — прыгажуням-сувязным і медсёстрам. Такая рамантызацыя дапамагае глядзець на свет аптымістычна, але яна ж хавае ў сабе небяспеку, што вайна, — гэта значыць забойства — будзе ўспрымацца не як агульначалавечая віна, але як вясёлая прыгода. Зрэшты, гэтая рэмарка мала датычыць кнігі Канстанціна Нілава: нягледзячы на засяроджанасць на радасным, страшны, крывавы бок вайны не прыхаваны. Рэалістычны баланс захоўваецца.

**Наста ГРЫШЧУК**

### ДЭТЭКТЫЎ XVII СТАГОДДЗЯ

**Аўтар.** Ягор Конеў — выкладчык Інстытута журналістыкі БДУ, добры сябар часопісаў «Полымя» і «Маладосць», іншых перыядычных выданняў. Вядомы як драматург і аўтар шматлікіх аповесцей, галоўны герой некалькіх з іх — знакаміты Тадэвуш Касцюшка.

**Твор.** Ягор Конеў неаднойчы звяртаўся да гістарычнай тэмы, і п'еса «Злачынства і пакаранне на берагах Свіслачы» — не выключэнне. Твор заснаваны на сапраўдных падзеях, якія адбываліся ў 1606 — 1609 гадах у Менскім ваяводстве. Рэмінісцэнцыя з Фёдара Дастаеўскага ў назве гістарычнай драмы рыхтуе да сустрэчы з галоўнымі героямі — Марынай Карловіч (у дзявоцтве Дастаеўскай) і яе сястрой Раінай. Муж Марыны забіты. Каб знайсці забойцу, у маёнтак прыязджае земскі суддзя Андрэй Станкевіч.

Адпрацоўваюцца розныя версіі, удакладняюцца акалічнасці трагічнага здарэння, суддзя і яго сакратар неаднойчы рызыкуюць жыццём... У п'есе шмат неспадзяванак, шмат нечаканых змен да лепшага, таму чытаць яе — адно задавальненне. Твор імпануе ўзнаўленнем шляхецкай далікатнасці. Галоўная ж знаходка аўтара — вобраз абаяльнага Андрэя Станкевіча, нетаропкага, часам смешнага, але заўсёды пільнага і прадбачлівага, які працуе з верай у правасуддзе і з вытрымкай сустракае спакусы жыцця.

### ВОСТРАЎ СЮРПРЫЗАЎ




**Аўтар.** Ліна Багданава мае вялікі педагагічны досвед. Скончыла матэматычны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Здольнасць аналізаваць вельмі спатрэбілася ў літаратурнай працы: пісьменніца спецыялізуецца на дэтэктывах і мае на паліцы больш як дзесяць уласных кніг. Раман «Шэсць зорак за сто кіламетраў ад дому» вылучаны на атрыманне прэміі не выпадкова...

**Твор.** Кніга Ліны Багданавай «Шэсць зорак за сто кіламетраў ад дому» выйшла ў серыі «Беларускі аўтар» (выдавецтва «Беларусь»), дзе прадстаўленыя фантастыка, дэтэктывы, любоўныя раманы на рускай мове.

У кнізе ёсць усё, што дапаможа мілай чытачцы ўтульна правесці вечар: авантуры, неспадзяванкі, лёгкі флірт, крыху іроніі, прыемнае асяроддзе выхаваных і забяспечаных людзей.

Галоўная гераіня, няўрымслівая і сімпатычная Дзіна, мае ўласную лагістычную кампанію, яе муж — дырэктар інтэрнацыянальнага кансорцыума. Дзіна — вялікая аматарка экстрэмальнага адпачынку, але сям'я нарэшце вырашае, што спакойнае жыццё на прыродзе будзе для яе больш карысным. У выніку Дзіна трапляе ў «Манастырскі маёнтак», дзе можна не толькі камфортна адпачыць, але і далучыцца да пошукаў скарбаў.

Гаспадары «Манастырскага маёнтка» — нашчадкі даўняга ўладальніка вострава — паходзяць з роду Сапегаў. Дзіна не толькі слухае старыя легенды, але і згадвае гісторыю Рэчы Паспалітай, знаёміцца з падзеямі, якія адбываліся на месцы даўняга манастыра ў ХХ стагоддзі. Кароткія гістарычныя экскурсы не ўскладняюць сюжэт, але нагадваюць, што веды пра мінулае сваёй краіны могуць быць вельмі патрэбнымі...

Твор пераконвае, што адпачынак на радзіме можа быць вельмі цікавым: «не балота, а безліч сюрпрызаў». Нават родная прырода, якая спачатку падаецца гераіні панурай і непрыветнай, пераўвасабляецца проста на вачах...

### ШЭРЛАК ХОЛМС З ГЛЫБІНКІ




**Аўтар.** Анатоль Дзенісейка больш як чвэрць стагоддзя працаваў у органах пракуратуры. Пад яго кіраўніцтвам пракуратура Драгічынскага раёна на працягу трох гадоў з'яўлялася адзінай у Брэсцкай вобласці, дзе не было нераскрытых наўмысных забойстваў.

Анатоль Дзенісейка мае шэраг пачэсных узнагарод, у тым ліку за плённую працу ў галіне культуры. Шаноўны пракурор выдаў шэраг кніг (на рускай мове), прысвечаных роднаму Палессю. Кніга «Каханне ў полымі вайны» аб'ядноўвала замалёўкі пра каханне ваеннага і пасляваеннага часу, матэрыялы рэлігійнай тэматыкі, роздумы над гістарычнымі падзеямі. «Агдэмер. Святло палескіх зорак» і «Тышкавічы — класіка палескага фальклору» — выданні, якія распавядаюць пра мінулае і сучаснасць невялічкіх вёсак, дзе пачынаецца радавод многіх яркіх асоб, напрыклад, легендарнага канадскага хакеіста Уэйна Грэцкі. Анатоль Дзенісейка ўпэўнены, што ў Беларусі багата следчых, якія не саступаюць па майстэрстве знакамітаму Шэрлаку Холмсу.

**Твор.** Кніга «Нататкі пракурора — сівога палкоўніка юстыцыі» знаёміць з працоўнымі буднямі сучасных дэтэктываў, прычым кожная з 18 гісторый напісана на аснове рэальных падзей, з пазначэннем артыкула, па якім асуджаны злачынца. Чытач радуецца поспехам следчых і адзначае, што галоўная прычына трагічных здарэнняў у глыбінцы — дрэнныя схільнасці і шкодныя звычкі. У большасці выпадкаў ахвяры злачынстваў мелі праблемны характар альбо прытрымліваліся нездаровага ладу жыцця.

Да жанру дэтэктыва часта звяртаюцца людзі «ад прафесіі», што адлюстроўваецца ў стылі. Анатоль Дзенісейка не цураецца літаратурных штампаў і справаводчых клішэ. Піша проста, але лагічна і па-свойму трапна: «Следчы пракуратуры сельскага раёна з глыбінкі, юрыст першага класа Аляксей Залатнік, нягледзячы на ўзрост і сівізну, быў заўсёды напагатове, просты і надзейны, як аўтамат Калашнікава». Калі б пісьменнік з філалагічнай адукацыяй вырашыў распавесці «дэтэктывы з глыбінкі» ад імя следчага, то доўга ламаў бы галаву, якімі стылістычнымі сродкамі стварыць вобраз апавядальніка. Анатоль Дзенісейка пазбаўлены гэтай праблемы, таму «Нататкі пракурора — сівога палкоўніка юстыцыі» дазваляюць увявіць ход думак і светапогляд рэальнага беларускага следчага.

**Юлія ШПАКОВА**

## Лілія АНАНІЧ, міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь:

# «Літаратура спрыяе адкрыццю Беларусі ў свеце»

**На пытанні «ЛіМа» адказвае міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Станіславаўна Ананіч.**

**— Штогод на беларускае свята пісьменства прыязджаюць замежныя госці. Чым для іх цікавае свята беларускага пісьменства? Колькі гасцей і адкуль мы чакаем сёлета? Чаму для нас важны ўдзел замежных гасцей? Ці ўзнікаюць адмысловыя кніжныя праекты ў выніку іх удзелу ў Дні беларускага пісьменства? Ці ёсць штосьці падобнае ў іншых краінах?**

— Праводзячы свята такога маштабу, наша краіна прэзентуе сябе, прэзентуе сваю культуру і, зразумела, мову і літаратуру. Таму мы рады, што ў розныя гарады ў Дзень беларускага пісьменства прыязджаюць паслы краін, акрэдытаваныя ў Беларусі, ды і іншыя замежныя госці. Як пасля свята пісьменства, так і пасля традыцыйнай лютаўскай кніжнай выстаўкі-кірмашу, канечне ж, ладзяцца самыя розныя праекты, выдавецкія ініцыятывы. Напрыклад, «Звяздой» была выдадзена серыя кніг «Сугучча сэрцаў», у якіх былі прадстаўлены нацыянальныя літаратуры краін Садружнасці. А колькі кніг замежных пісьменнікаў выйшла — і не пералічыць!.. Традыцыйна з удзелам Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы на працягу многіх гадоў выходзіць адмысловы расійскі нумар нашага часопіса «Нёман». Ды і пераклады, відавочна, з'яўляюцца на старонках літаратурна-мастацкіх выданняў дзякуючы менавіта нашым сустрэчам. Заўсёды рада бачыць у Беларусі азербайджанскага паэта Чынгіза Алі аглу, армянскага літаратара Эдварда Мілітаняна, якіх, між іншым, Прэзідэнт нашай краіны ўзнагародзіў медалём Францыска Скарыны. А яшчэ — літоўскага пісьменніка Яронімаса Лаўцюса, таджыкскага драматурга публіцыста Ато Хамдама, літаратараў з Расіі Валерыя Казакова, Любоў Турбіну, Наталлю Ігнаценка, Алеся Кажадуба ды шмат яшчэ каго. Дарэчы, ведаю, што і Хамдам, і Лаўцюс, і Турбіна, і Кажадуб, і Ігнаценка — члены Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Відаць, падобныя імпрэзы, святы ёсць і ў іншых краінах. Але ж, напэўна, яны не такія гучныя, не такія насычаныя канкрэтнымі справамі.

**— У чым мэты і значэнне такога міжнароднага праекта, як «Сугучча»? Як складвалася кола яго ўдзельнікаў (па краінах)? Што наша краіна атрымлівае ў выніку яго рэалізацыі? Ці дапамагае ён прасоўванню айчынных літаратараў на прасторы іншых краін і як?**

— Толькі сёлета ў Таджыкістане выйшлі «беларускія» нумары і часопіса «Памир», і літаратурна-мастацкай газеты «Адабиё ва саньят». А яшчэ асобныя творы, кнігі пісьменнікаў Беларусі ў апошнія некалькі гадоў пабачылі свет у Азербайджане, Казахстане, Туркменістане, Украіне, Літве... Вельмі моцныя сувязі ў беларускіх пісьменнікаў з часопісамі, выдавецтвамі Расіі. І гэта зусім не выпадковыя кантакты. У многім яны якраз і развіваюцца дзякуючы таму, што ў розныя гады ўдзельнікамі міжнароднага круглага стала былі дырэктар выдавецтва «Художественная литература» Георгій Прахін, галоўны рэдактар «Роман-газеты» Юрый Казлоў, празік, паэт і публіцыст Валерый Казакоў, галоўны рэдактар «Литературной газеты» Юрый Палякоў. Пісьменнікі абменьваюцца кнігамі, тэкстамі, ідэямі, вылучаюць самыя розныя ініцыятывы. Уражвае з гэтай нагоды работа інтэрнэт-партала «Созвучие: литература и публицистика стран Содружества». Мо з часам гэты праект ператворыцца, напрыклад, у паўнавартасны інтэрнэт-часопіс ці гаджэт-часопіс, па электронных старонках якога будуць адсочваць развіццё нацыянальных літаратур. Такая работа спрыяе стварэнню творчай міралюбівай пляцоўкі, дапамагае развівацца іншым адносінам, спрыяе пашырэнню ўяўленняў пра Беларусь у свеце.

Вытокі міжнароднага круглага стала — у 2007 годзе, калі ўпершыню ў Мінску было праведзена такое мерапрыемства. Але вытокі такога шырокага міжнароднага літаратурнага супрацоўніцтва — у самой ідэі правядзення Дзён беларускага пісьменства.

**Пытанні задаваў Сяргей ШЫЧКО**

# Кола дружбы і ўзаемаразумення

Кожны штогадовы міжнародны круглы стол, які праходзіць у Мінску ў Нацыянальнай бібліятэцы падчас святкавання Дня беларускага пісьменства, з'яўляецца неардынарнай і значнай падзеяй. Нідзе больш на постсавецкай прасторы кіраўнікі дзяржаў не звяртаюць столькі ўвагі на літаратурны працэс і творчую інтэлігенцыю, як у сучаснай Беларусі.

Прысутнасць, як правіла, міністра інфармацыі і першага намесніка кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, пісьменнікаў і грамадскіх дзеячаў з многіх краін свету надае ўсяму мерапрыемству статус істотнай падзеі міждзяржаўнага значэння. Круглы стол становіцца пляцоўкай, дзе ў цёплай атмасферы добразычлівасці і ўзаемаразумення адбываецца адкрытае абмеркаванне актуальных праблем духоўнага і маральнага жыцця краін-удзельніц.

Гэты працэс дазваляе нам лепш зразумець адно аднаго, зноў адчуць наша былое адзінства і ранейшае шчырае сяброўства, азначыць лепшыя шляхі пераадолення, як казаў найвялікшы духоўны падзвіжнік Сергій Раданежскі, «ненавіснай варожасці свету гэтага» ў імя мірнай будучыні і росквіту нашых народаў. Вельмі сімвалічна, што цяперашні круглы стол пад назвай «Сугучча: слова Скарыны ў сучасным свеце» пройдзе напярэдадні вялікага юбілею — 500 гадоў з дня выдання першай друкаванай «Рускай Бібліі», падрыхтаванай найвялікшым асветнікам сусветнага значэння Францыскам Скарынай. Гэта яшчэ раз пацвярджае амаль забытую ў сучасным свеце ісціну, змешчаную ў Евангеллі ад Іаана, пра вечнае першародства Высокага Слова над усімі справамі і ўчынкамі чалавецтва! Хочацца пажадаць удзельнікам сустрэчы новых творчых адкрыццяў і поспехаў ва ўсіх іх высакародных пачынаннях у імя светлай будучыні нашых краін!

**Юрый ІВАНОЎ, пісьменнік (Рэспубліка Малдова)**

Працяг. Пачатак на стар. 1.

# Пошукі сяброў

**Пра тое, што зроблена ў выніку шматгадовай працы сталай пляцоўкі міжнародных круглых сталоў у межах Дня беларускага пісьменства, вялася гаворка неаднойчы. І, магчыма, наўрад ці лагічна зараз паўтараць ужо не раз падсумаванае. Хацелася б паразважаць на тэму, а што далей? Якім шляхам рухацца ў развіцці міжнародных літаратурных сувязей заўтра?**

Першую падказку ў праектаванні будучай работы робіць наступны факт. З лютага 2015 года ў межах традыцыйнай мінскай кніжнай выстаўкі-кірмашу праводзіцца міжнародны сімпозіум літаратараў «Пісьменнік і час». Фармат яго работы выводзіць на іншыя абсягі. Сёння варта думаць пра месца і ролю пісьменніка, мастацкага слова ў вырашэнні задач па стварэнні прасторы міралюбства, па выкладанні пазіцыі паэтаў, празаікаў, публіцыстаў у адстойванні інтарэсаў міру ва ўсім свеце, у супрацьстаянні войнам, міжнароднаму тэрарызму. Відавочна, наспела патрэба шукаць тыя палымяныя словы, якія некалі гучалі (і часам былі вельмі пераканаўчымі) з вуснаў Чынгіза Айтматава, Барыса Алійніка, Алеся Адамовіча, Васіля Быкава... Дарэчы, публіцыстычны запал патрэбен не толькі ў дачыненні да таго, як сказаць «не» братазабойству, але і як правесці межы паміж дэградацыяй і ўзвышэннем чалавека як асобы. Маральныя, духоўныя аспекты ў выхаванні чалавека і грамадства — вось тое, што не можа не хваляваць. А як жа, якімі мастацкімі рэсурсамі рэалізаваць гэтыя задачы?.. І не толькі ў літаратуры, публіцыстыцы, але і ў кіно, тэатры, выяўленчым мастацтве?

Другая «лінія паводзін»... Папяровыя носьбіты думак, мастацкіх сэнсаў страчваюць свае пазіцыі. Яны даўно не з'яўляюцца лідарамі ва ўплывах на чытача. Ці ёсць у нас сёння сілы для таго, каб спрадвечныя філасофскія ісціны маральнага, гуманістычнага кірунку «загарнуць» у новыя тэхналогіі? І каб пры гэтым не згубіць, не страціць сутнаснае, праўдзівае вымярэнне жыцця, каб не забыцца на галоўныя мэты культуры, мастацтва, літаратуры... У Выдавецкім доме «Звязда» зроблена спроба паяднаць інтарэсы розных нацыянальных літаратур, розных культур праз стварэнне і работу інтэрнэт-партала «Созвучие: литература и публицистика стран СНГ» *(sozvuchie.by)*. Альбо — «Сугучча: літаратура і публіцыстыка краін СНД». Разгалінаваная прастора выкладання розных электронных матэрыялаў (тэкстаў,



*Фота Кастуся Дробава.*

*Падчас аднаго з міжнародных круглых сталоў.*

відэазапісаў, ілюстрацый і г. д.) скіравана на адлюстраванне сучасных працэсаў у нацыянальных літаратурах. Большасць тэм прадстаўлена на рускай і беларускай мовах. Але ж таксамаададзены тэксты на мовах народаў краін Садружнасці, а яшчэ — на англійскай і кітайскай. Мадэратарамі ў рабоце праекта выступаюць пісьменнікі і навукоўцы з розных краін СНД. Ды і не толькі СНД. Сённяшняя наведвальнасць гэтага электроннага рэсурсу параўнальна невялікая — каля дзесяці тысяч арыгінальных наведвальнікаў у месяц. І тым не менш першыя крокі ў гэтым кірунку можна лічыць удалымі. Уражвае аўтарскі склад інтэрнэт-праекта «Сугучча...»: літаратуразнаўцы, дактары навук з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Арменіі, Азербайджана, Казахстана, а яшчэ з Кітая, ЗША, Балгарыі, Польшчы, Германіі, Венгрыі, Вялікабрытаніі... Зроблены спробы актыўнага абмеркавання мастацкіх здабыткаў беларускіх пісьменнікаў. Як прыклад — шырокая палітра водгукаў на аповесць Алены Брава «Дараванне». Сваімі разважаннямі пра твор падзяліліся доктар філалагічных навук Цімох Ліякумовіч (ЗША), доктар філалагічных навук Алімжан Хамраеў, кандыдат філалагічных навук Святлана Ананьева (Казахстан), доктар філалогіі Ірада Мусаева (Азербайджан), сакратар Саюза пісьменнікаў Расіі Валерый Казакоў... З наступных твораў «Сугучча...» выкладае для абмеркавання аповесць «Геній» Алега Ждана, апавяданне «Ідэальны чытач» Алеся Бадака. Свае творы ў раздзел «К@нтэкст» прапанавалі празаікі Камран Назірлі (Азербайджан), Агагельды Аланазараў (Туркменістан), Валерый Казакоў (Расія)... Развіццё міжнародных зносін пераконвае і ў наступным: выходзячы ў шырокі свет, варта памятаць пра ўласны нацыянальны духоўны грунт. Разглядаючы шырокі свет, важна трымаць у памяці ўласныя творчыя, мастацкія інтарэсы. У Беларусі згублена традыцыя выдання альманахаў перакладной літаратуры. Быў час, калі айчынная практыка мастацкага перакладу ў многім удасканальвалася за кошт магчымасці надрукаваць пераўвасобленае ў «Даляглядах», «Братэрстве», «Ветразі», шматлікіх калектыўных зборніках, анталогіях нацыянальных паэзій. Як вынік — вялікі атрад літаратараў, якія займаліся выключна мастацкім перакладам. Канечне, сёння можна апеляваць да таго, што, маўляў, час іншы, запатрабаванасць не тая. І тым не менш... Усталяванне кантактаў з замежнымі цэнтрамі перакладу, якія працуюць, як вядома, пры ўрадах ці творчых саюзах у Азербайджане, Таджыкістане, Арменіі, паспрыяла б большай актыўнасці беларускіх пісьменнікаў. Магчыма, варта падумаць і пра стварэнне асобнага часопіса перакладаў — няхай сабе і з квартальнай перыядычнасцю. Ёсць патрэба і ў іншых арганізацыйных кроках. Важна толькі, каб яны рэалізоўваліся шырокім складам цікаўнай да іншых культур, да іншых літаратур пісьменніцкай грамады.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

**«ЛіМ» прапануе чытачам пазнаёміцца з замежнымі гасцямі круглага стала «Сугучча: слова Скарыны ў сучасным свеце», прысвечанага 500-годдзю беларускага кнігадрукавання**

# На варце гуманізму



Дзе знайсці адказы на вечныя пытанні быцця, захаваць сваю духоўнасць і любоў да роднага народа? Які самы дзейсны ключ да разумення свету? Пра гэта і не толькі выказаў сваё меркаванне пісьменнік галоўны рэдактар часопіса «Роман-газета» Юрый Казлоў, адзін з удзельнікаў круглага стала.

**— Чым зацікавіла вас дыскусія, прысвечаная беларускаму першаадкрывальніку кнігадрукавання і знакамітаму еўрапейскаму гуманісту, якая будзе праходзіць у Мінску?**

— Мне здаецца, Францыск Скарына — гэта геній, які значна апярэдзіў свой час. Ён на дзіва актуальны сёння. Яго погляд на свет і прыроду чалавека ўніверсальны. Перад нашай цывілізацыяй зноў стаяць тыя ж самыя вечныя пытанні, адказы на якія шукаў у сваіх працах вялікі гуманіст: захаванне духоўнасці праз адстойванне хрысціянскіх ідэалаў, любоў да сваёй краіны і свайго народа, самаўдасканаленне чалавека праз самастойны пошук таго, што называецца ісцінай. Скарына даў народу маральныя і духоўныя ідэалы, якія ніколі не састарэюць. Удзельнічаць у абмеркаванні ролі і значэння гэтага вялікага чалавека ў сённяшнім свеце для мяне вельмі цікава і пазнавальна.

**— Якія, на ваш погляд, функцыі павінна выконваць кніга ў сучасным грамадстве? Чаго бракуе літаратуры сёння?**

— Скарына разумеў, што кніга — гэта шлях да ведаў, разумення свету, справядлівасці і, у канчатковым выніку, шлях да Бога. Ён вызначаў чалавека як істоту разумную, маральную і грамадскую. Сёння, на жаль, кніжная справа адступае ад гэтых паняццяў. Кніга ператварылася ў тавар, сродак атрымання прыбытку. Таленавітаму слову бывае цяжка прабіцца да чытача. Таму трэба падтрымліваць перш за ўсё сваю нацыянальную літаратуру, сваіх пісьменнікаў, таму што ў іх творах праяўляе сябе душа народа. Вось такой, арыентаванай на традыцыі і векавыя ўяўленні сваіх народаў, літаратуры сёння не хапае.

**— Чым прыцягвае вас наша краіна?**

— Беларусь, бадай, адзіная постсавецкая краіна, якая здолела захаваць і прымножыць, па-першае, сваю нацыянальную ідэнтычнасць, а па-другое, значную частку таго, што справядліва звалася «дасягненнямі сацыялізму». Беларусы — вельмі творчы, адданы нацыянальным традыцыям, арганізаваны народ. Сёння Беларусь перажывае сапраўдны рэнесанс сваёй культуры. У палітыцы ж вельмі годна і ўзважана будуе адносіны як з братняй Расіяй, так і з Еўропай.

**— Кажуць, што чытанне — люстэрка нашага жыцця і лекі для душы. Чым прывабіць чытача, асабліва маладога, які ўсё больш арыентуецца на электронныя носьбіты інфармацыі?**

— Гэта немагчыма зрабіць без асэнсаванай і паслядоўнай дзяржаўнай палітыкі, накіраванай на падтрымку нацыянальнай літаратуры, на вяртанне кнігі, як абавязковага элемента культуры, у штодзённае жыццё народа. Для гэтага неабходна падняць у грамадстве прэстыж прафесіі пісьменніка, успомніць, што пісьменнік — гэта носьбіт нацыянальнай культуры, своеасаблівы вартавы мовы, разумнага, добрага, вечнага. Менавіта так разумеў кнігу Францыск Скарына, які заклікаў надзеленых уладай людзей абыходзіцца з іншымі, у тым ліку і з тагачаснымі асветнікамі (цяпер гэтую функцыю ў грамадстве выконваюць пісьменнікі) так, як яны б хацелі, каб на Вышэйшым Судзе абыходзіліся з імі. Гэты запавет вялікага гуманіста выключна актуальны і сёння.

**Падрыхтавала Марыя ВОЙЦІК**

# Будаваць масты!



Публіцыст і перакладчык Мар'ян Сэрватка, былы Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь з 2008 па 2013 год, па-ранейшаму падтрымлівае сувязь з нашай краінай. Вось і сёлета ён мае намер узяць удзел у пасяджэнні Міжнароднага круглага стала «Сугучча: слова Скарыны ў сучасным свеце», прысвечаным 500-годдзю беларускага кнігадрукавання.

Падчас выканання абавязкаў першага пасла Славакіі ў Беларусі Мар'ян Сэрватка надаваў шмат увагі пытанням культуры. Ён выступіў ініцыятарам стварэння лектарату славацкай мовы ў БДУ, садзейнічаў выданню славацкай граматыкі. З дапамогай дыпламата пабачылі свет «Беларуска-славацкі размоўнік-даведнік» для турыстаў, цікавая кніга Ірэны Гаражанкінай пра тэрмальныя курорты «Жывая вада Славакіі», а таксама альбом, прысвечаны заснавальніку беларускай сцэнаграфіі Аскару Марыксу, у якога, па словах Мар'яна Сэрваткі, «былі славацкія карані і беларускае сэрца».

За час працы ў Мінску спадар Сэрватка ўбачыў шмат аспектаў беларускай культуры, наведваў розныя мерапрыемствы. Асабліва запомнілася акцыя ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы пад назвай «Чытаем Купалу разам». Там бліжэй пазнаёміўся з паэзіяй Песняра і нават пераклаў на славацкую мову вядомы верш «А хто там ідзе?».

Чаму вырашыў узяць удзел у Міжнародным круглым стале ў Мінску?

— Я ўжо некалькі разоў адзначаў Дзень пісьменства ў Беларусі, —узгадае колішні пасол. — Гэта былі сапраўдныя святы культуры слова. Сустрэчу-2016 прысвяцілі 500-годдзю беларускага кнігадрукавання, і я вельмі рады, што свой унёсак у выдавецкую справу Беларусі зрабіла і Славакія. Менавіта ў нас у 2003 і 2012 гадах з'явіліся дзве важныя кнігі Уладзіміра Арлова і Зміцера Герасімовіча «Краіна Беларусь» і «Краіна Беларусь. Вялікае Княства Літоўскае», выпушчаныя ў вядомым славацкім выдавецтве«*Kalligram*», Браціслава.

Сёлета за круглым сталом Мар'ян Сэрватка гатовы распавесці гасцям пра дасягненні праекта «Дыялог культур: Беларусь — Славакія». Праект быў заснаваны падчас працы Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом у Мінску. Разам з беларускімі сябрамі — тагачаснымі міністрамі, рэктарамі, работнікамі культуры, пісьменнікамі, мастакамі, фатографамі — пачалі будаваць масты паміж культурамі.

— Памятаю, што гэта быў складаны час для дыпламата: палітычны дыялог Еўрасаюза і Беларусі развіваўся марудна, але, нягледзячы на ўсе цяжкасці, у нас атрымалася сапраўды цікавая справа, — упэўнены спадар Сэрватка.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# Каўказ — Беларусь: літаратурныя клопаты



Абмеркаванне сучаснай літаратурнай сітуацыі — яшчэ адна нагода для літаратурных сустрэч міжнароднага маштабу. Нават калі галоўная тэма мерапрыемства сфармулявана інакш, надзённыя праблемы згадваюцца ў кулуарных размовах. Якія агульныя клопаты маюць беларускія і каўказскія пісьменнікі, распавядае Саліх Гуртуеў — балкарскі паэт, заснавальнік і першы прэзідэнт Клуба пісьменнікаў Каўказа. Саліх шмат займаецца перакладамі і рыхтуе да выдання двухтомнік сусветнай паэзіі на балкарскай мове. Пра гэта і не толькі ён распавёў чытачам «ЛіМа».

Пісьменнікі на Каўказе карыстаюцца безумоўным аўтарытэтам — адпаведна таленту, мастацкай глыбіні твораў. Але з кожным днём усё цяжэй выдаць кнігу: маленькія ганарары, дарагая папера, у выніку — маленькія тыражы, што робіць выданне не вельмі даступным для масавага чытача. Тым не менш чытачы чакаюць сустрэч з пісьменнікамі, наведваюць бібліятэкі, шукаюць новыя кнігі.

На Каўказе, як і ў Беларусі, існуе ўсеагульная заклапочанасць: змяншаецца колькасць носьбітаў нацыянальнай мовы. Інтэрнэт, тэлебачанне «адбіраюць» чытачоў — носьбітаў мовы. На літаратурных сустрэчах каўказскія пісьменнікі шмат абмяркоўваюць значнасць нацыянальнай мовы для захавання нацыянальнай ідэнтычнасці. Чытачы прыслухоўваюцца, і гэта вельмі ўсцешвае.

З распадам СССР узаемаадносіны паміж народамі Каўказа сталі больш стрыманымі, што тычыцца ў тым ліку і літаратурных сувязей. Каб аднавіць братэрскія адносіны, падтрымліваць узаемную цікавасць, з'явілася ідэя стварэння Клуба пісьменнікаў Каўказа, сёння добра вядомага нават у Беларусі. Клуб ладзіць перыядычныя сустрэчы пісьменнікаў рэгіёна, спрыяе перакладу твораў на розныя нацыянальныя мовы, арганізоўвае вандроўкі, якія знаёмяць з жыццём іншых народаў.

— Мэта клуба — адраджэнне цудоўнага лозунга савецкіх часоў «Сяброўства пісьменнікаў — сяброўства літаратур — сяброўства народаў», — патлумачыў Саліх Гуртуеў. І гэта працуе: чытачы пачынаюць актыўна цікавіцца літаратурамі суседніх краін, іх сучасным жыццём. Дарэчы, мы запрашаем да дыялогу і прадстаўнікоў іншых літаратур. Так, у найбліжэйшы час плануем правесці Дні беларускай літаратуры на Паўночным Каўказе.

А вось з запатрабаванасцю паэзіі і прозы сітуацыя ў Беларусі і на Каўказе крыху адрозніваецца. У народаў Паўночнага Каўказа пісьменства з'явілася толькі на пачатку XX стагоддзя. Спачатку на аснове лацініцы, потым — кірыліцы. Стваральнікі песень, легенд, апоовядаў часам запісвалі свае творы арабскімі літарамі ці нават вынаходзілі ўласны алфавіт. Так быў створаны вялікі эпас народаў Каўказа «Нарты». Многія творы існавалі ў вуснай форме і перадаваліся з пакалення ў пакаленне, прычым творы ў паэтычнай форме былі больш папулярнымі, чым проза. Тым часам дзякуючы кірыліцы жыхары Каўказа пазнаёміліся з рускай і сусветнай літаратурай, з'явіліся аўтары-празаікі. І сёння проза па папулярнасці абганяе паэзію, хаця раней было інакш.

Імёны многіх прадстаўнікоў балкарскай, кабардзінскай, асецінскай, шматмоўнай дагестанскай літаратур займаюць пачэснае месца ў сусветнай літаратуры. Гэта Расул Гамзатаў, Сулейман Стальскі, Батырай, Кязім Мячыеў, Саід Шахмуразаеў, Шора Ногмаў, Бемурза Пачаў, Коста Хетагураў і многія іншыя.

**Янка НАТАВЕЦ**

# Выхоўваеш дачку — выхоўваеш нацыю



Якімі шляхамі жыхары далёкіх краін трапляюць на беларускія культурныя мерапрыемствы? Клару Мынжасараву звязвае з Беларуссю лёс яе мужа Адзія Шарыпава, які быў адным з першых заснавальнікаў партызанскага руху ў Беларусі. Сябраваў з Пятром Машэравым, Максімам Танкам, Петрусём Броўкам...

Клара Мынжасарава — прафесар Казахскага дзяржаўнага жаночага педагагічнага ўніверсітэта, дэкан філалагічнага факультэта, кандыдат філалагічных навук. У Казахстане, як і ў Беларусі, юнакі і дзяўчаты вучацца разам: жаночы ўніверсітэт — адзіны ў краіне. Тут створаны выдатныя ўмовы для студэнтак, а ўніверсітэт займае сёмае месца сярод вядучых ВНУ Казахстана.

«Казахскі народ вялікую ўвагу ўдзяляе выхаванню дзяўчат. «Выхоўваеш дачку — выхоўваеш нацыю» — сцвярджае казахскае выслоўе, і гэты прынцып закладзены ў галоўную місію ўніверсітэта, — распавядае Клара Мынжасарава. — У першую чаргу наш універсітэт — гэта школа маральнасці. Менавіта таму ён існуе і мае будучыню. Дзяўчына — гэта дачка, будучая жонка і маці, яна ахоўвае хатні агмень. Жанчына-педагог — выхавальніца нацыі. Лідар нацыі Нурсултан Назарбаеў усяляк падтрымлівае дзейнасць КазДзяржЖанПУ».

Універсітэт быў заснаваны ў 1944 годзе. Выкладчыкамі сталі самыя моцныя педагогі і навукоўцы. Навучальная ўстанова падрыхтавала ўжо больш як 60 тысяч педагогаў.

У жаночым педагагічным універсітэце распрацаваны праграмы для ўкаранення трохмоўнага навучання і вывучэння на англійскай мове прадметаў прыродазнаўча-матэматычнага кірунку. Цікава, што адпаведна Плану нацыі «100 канкрэтных крокаў» у Казахстане прадугледжаны паэтапны пераход ВНУ на англійскую мову навучання.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Паэзія на шыльдах

**Таір Раджабаў — лірык і фізік адначасова. Выпускнік Таджыкскага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат фізіка-матэматычных навук, аўтар двух паэтычных зборнікаў. У перакладзе на рускую мову выдадзена кніга вершаў Таіра Раджабава «Калі надыдзе прасвятленне...» і калектыўная навуковая праца «Тэорыя адрозненняў у натурах жывых істот». Па словах суаўтара працы, гэтая маленькая па аб'ёме, але значная па змесце кніга — спроба ўвесці матэматыку ў гуманітарныя навукі. Што значыць быць паэтам у сучасным Таджыкістане? З гэтага пытання і пачалася размова з Таірам Раджабавым:**

— Быць таджыкскім паэтам — значыць бачыць сябе адпаведна традыцыі ўсходняй таджыка-персідскай літаратуры з яе багатай і ўнікальнай спадчынай, калі выказанае слова становіцца аб'ектам увагі вечных зорак сусветнай паэзіі — Рудакі, Хафіза, Саадзі, Хаяма, Румі, іншых майстроў слова і мысляроў. Праз гэтую прызму таджыкскі чытач глядзіць на вершы сучасных аўтараў. Гэта вялікая адказнасць і высокі гонар.

Цэнтральнай тэмай усходняй паэзіі заўсёды была філасофія чалавечага жыцця. Прысвечаныя гэтай тэме творы паэтаў-мысляроў, паэтаў-навукоўцаў і прыродазнаўцаў Усходу застаюцца запатрабаванымі і сёння.

**— Таджыкі цікавяцца сучаснай літаратурай?**

— На Усходзе, у прыватнасці, у таджыкскім грамадстве, слова заўсёды мела вялікую сілу, таму і паэты заўсёды былі паважанымі асобамі. Каб ушанаваць памяць паэтаў, іх імёнамі ў Таджыкістане называюць гарады, вуліцы, адміністрацыйныя і культурныя цэнтры. Фрагменты з паэзіі майстроў слова можна пабачыць на шыльдах і транспарантах, змешчаных на вуліцах і ў грамадскіх месцах.



*Таір Раджабаў.*

Духоўнае жыццё грамадства цесна звязана з эканамічнай сітуацыяй. Распад СССР і грамадзянская вайна ў Таджыкістане прыкметна знізілі матэрыяльныя магчымасці людзей далучацца да паэзіі, але цікавасць да літаратуры застаецца на вышыні. Кожная эпоха — гэта новыя тэмы ў літаратуры, і апошнія дзесяцігоддзі адметныя частым выяўленнем у вершах душэўнага болю. Людзі знаходзілі суцяшэнне ў паэзіі.

Дасягненне згоды, інтэнсіўнае развіццё краіны — вынік шматгадовай дзейнасці кіраўніцтва краіны на чале з Прэзідэнтам Рэспублікі Таджыкістан лідарам нацыі Эмамалі Рахмонам — адкрылі новыя старонкі ў духоўным жыцці народа, спрыялі адраджэнню традыцый арганізацыі культурных мерапрыемстваў. Кіраўніцтва рэспублікі надае асаблівую ўвагу стварэнню сучасных культурна-асветніцкіх цэнтраў у гарадах і раёнах. Тэлеі радыёперадачы рэгулярна знаёмяць з вядомымі і маладымі літаратарамі, іх новымі творамі.

Адзначу, што да паэзіі часта звяртаюцца людзі, якія не займаюцца літаратурай прафесійна. Гэта вядомыя дзяржаўныя дзеячы і нават бізнесмены. Багата ў нас і нетытулаваных паэтаў, якія складаюць вершы для сябе. Гэта сведчыць пра тое, што таджыкі па натуры схільныя да паэзіі.

**— Чым адметная таджыкская паэзія?**

— Усходні чалавек мае вельмі цесныя сувязі з людзьмі, у першую чаргу з роднымі. У таджыкскай паэзіі шмат вершаў, прысвечаных самаму дарагому чалавеку — маці. Практычна ўсе паэты звярталіся да гэтай тэмы, у некаторых ёсць нават асобныя зборнікі. Напрыклад, у аднаго з самых папулярных паэтаў найноўшай літаратуры Таджыкістана народнага паэта Лоіка Шэралі ёсць зборнік «Мадарнома» — аповед пра маці. Шанаванне маці — вялікая тэма ў таджыкскай паэзіі. Шмат вершаў прысвечана іншым блізкім асобам: бацьку, брату, сястры, сябрам, паважаным і аўтарытэтным людзям.

**— Вы берацеся за пяро з разлікам на публікацыю вершаў?**

— Я не лічу сябе прафесійным паэтам. Паэзія — хобі, дзе я даю волю думкам, стаўлю задачы, часам чыста навуковыя, аналізую, параўноўваю, апісваю кантрасты, парадоксы, супярэчнасці, памылкі ў чалавечым усприманні, якія замінаюць больш поўна дыхаць паветрам шчаслівага жыцця. Напрыклад, у вершы «Лёс» у цэнтры ўвагі вядомы факт: чалавек па фізічных здольнасцях і магчымасцях саступае многім жывёлам — у чалавека няма крылаў, ільвінай сілы, спрыту малпы, нюху сабакі… Але ў яго ёсць розум, здольнасць да мыслення, што забяспечвае яго перавагу над усімі жывёламі. Так апісваецца філасофія рэчаў і з'яў, часам лагічныя развагі маюць вынікам нечаканыя высновы.

**— Як спалучаюцца фізіка і лірыка ў вашым жыцці?**

— Мова паэзіі прыемная і эфектыўная не толькі ў лірыцы. Кожны вершаваны тэкст успрымаецца з асаблівай цікавасцю і задавальненнем. Кантрасты ў паэзіі маюць моцнае эмацыянальнае ўздзеянне. У вершах выяўленне думкі больш лаканічнае, больш дзейснае.

Паэзія — гэта кантраст прыродных адчуванняў, а фізіка — гэта прыродныя законы, якія выклікаюць гэтыя кантрасты. Менавіта таму фізіка і лірыка знаходзяцца побач.

**— Чым вас прываблівáюць культурныя мерапрыемствы ў нашай краіне?**

— Удзел у круглых сталах і літаратурных сустрэчах — даніна павагі традыцыям беларускага народа, які шануе культурную спадчыну продкаў, дбае пра кнігу, падтрымлівае сяброўства з іншымі краінамі. Мы спрыяем добрым намерам захоўваць і развіваць існуючыя культурныя сувязі паміж народамі.

Паездкі ў Беларусь — магчымасць пазнаёміцца з культурай іншых народаў, сустрэцца з сябрамі. Распалася наша агульная краіна, але не зламаўся дух адзінства і сяброўства.

**Янка НАТАВЕЦ**

# З'яднаем культуры

**У Літве прысвячаюць Скарыне ўласныя творы, пісьменнікі выдаюць пра яго кнігі, усталёўваюць мемарыяльныя дошкі. Адзін з тых, хто зберагае памяць пра Скарыну, — Вітаўтас Жэймантас, празаік, перакладчык, публіцыст, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, член Саюза журналістаў Літвы.**

**— Тэма круглага стала, у якім вы таксама бераце ўдзел, — Францыск Скарына. Як у Літве ўшаноўваюць памяць першадрукара?**

— Для мяне Францыск Скарына — велічыня асаблівага значэння. Ён адзін з тых вялікіх гуманістаў, хто не толькі ўзвышае, але і аб'ядноўвае нашы культуры. Нарадзіўся ў Беларусі, кнігі пачаў друкаваць у маім родным Вільнюсе. І цяпер старыя вуліцы горада ўшаноўваюць яго памяць. У 1973 годзе была пастаўлена дэкаратыўная скульптура «Летапісец», прысвечаная Скарыне. На доме, дзе ў сярэднявеччы была друкарня, усталяваная мемарыяльная дошка з барэльефам Ф. Скарыны і надпісам на літоўскай і беларускай мовах, якая засведчыла, што тут асветнік надрукаваў першыя кнігі ў ВКЛ. У Вільнюсе ўжо некалькі дзесяцігоддзяў працуе сярэдняя школа імя Ф. Скарыны, дзе ўсе прадметы выкладаюцца на беларускай мове. Дарэчы, я таксама давядаўся пра Скарыну яшчэ ў школе: любоў да кнігі настаўнікі прывівалі менавіта імем Скарыны. Думаю, гэтую традыцыю нашы школы працягваюць і сёння.

Непасрэдна да творчасці Ф. Скарыны я звярнуўся ў 2014 годзе, калі Выдавецкі дом «Звязда» выпрашыў выпусціць кнігу аднаго верша «Францыск Скарына на мовах народаў свету». Я пераклаў верш Скарыны на літоўскую мову. Прыемна, што ў Літве адразу заўважылі выхад гэтай неардынарнай кнігі. Лічу, што і гэтага мала, каб ушанаваць памяць асветніка: і ў Вільнюсе трэба паставіць помнік Скарыне такога ж узроўню, як у Мінску.

**— Вы сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі. Чым вам гэта цікава і карысна?**

— Тое, што я ў саюзе, — гэта давер, і я гэтаму вельмі рады. Я літовец, пішу і выдаю кнігі на роднай мове, але ўдзел у Саюзе пісьменнікаў Беларусі накіроўвае мяне на іншыя тэмы, на літоўска-беларускія культурныя і літаратурныя сувязі. Гэта блізка мне і таму, што многія беларускія пісьменнікі, асветнікі жылі і працавалі ў Літве. За гэтыя гады я шмат напісаў пра беларусаў: Максім Танк, Цётка, Максім Гарэцкі, Наталля Арсеннева, Зоська Верас. Знаёмлю літоўскага чытача з Беларуссю і яе літаратурнымі дасягненнямі, з беларускімі газетамі і часопісамі, якія выходзілі ў Вільнюсе і Каўнасе.

**— Можа, ёсць беларускія пісьменнікі, якія асабліва ўразілі ці нават паўплывалі на вас?**

— Беларуская літаратура вельмі багатая. Гэта еўрапейская літаратура. Для беларускіх літаратараў важныя ідэі гуманізму, праўдзівасці, сапраўднай творчасці. Мяне больш за ўсё вабіць творчасць першапраходцаў. Тых, хто стаяў ля вытокаў адраджэння прафесійнай беларускай культуры, літаратуры. І не тады, калі яны ўжо спачывалі на лаўрах, а ў маладосці. Я маю на ўвазе Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Танка, лёс якіх цесна звязаны з Вільняй. Але казаць пра іх беларусам — тое самае, што ехаць у Тулу са сваім самаварам.



*Вітаўтас Жэймантас каля мемарыяльнай дошкі Янку Купалу.*

**— Ці можна неяк папулярызаваць беларускую літаратуру ў Літве і наадварот?**

— Можна і трэба! Я аддаў для макетавання сваю новую кнігу «З духоўнасцю і родным словам». Гэта кніга эсэ пра беларускіх асветнікаў. Можа, і не такога высокага палёту, як раней згаданыя, але ўсё ж цікавая. Яе героі — Адам Станкевіч, Станіслаў Глякоўскі ды іншыя. Усе яны жылі ці вучыліся ў Вільні, тварылі на беларускай мове. Гэта паэты, пісьменнікі, рэдактары, выдаўцы беларускіх газет і кніг. Думаю, што літоўскі чытач даведаецца праз іх і пра беларускую літаратуру.

Я пачаў чытаць па-беларуску, спрабую папулярызаваць беларускую літаратуру перакладамі. На літоўскай мове можна знайсці творы беларускіх пісьменнікаў Лідзіі Арабей, Георгія Марчука, Вольгі Караткевіч. Таксама пераклаў на літоўскую мову аповесць-казку Алеся Карлюкевіча «Як Шубуршун па Свіслачы падарожнічаў». Каб перакладаць, патрэбен толькі час. Ды і, на жаль, беларуска-літоўскага слоўніка не хапае.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

**Шмат замежных гасцей прыме Беларусь падчас Дня беларускага пісьменства. У лірычнай нізцы, якую «ЛіМ» прапануе чытачам, — творы паэтаў Азербайджана, Туркменістана, Таджыкістана і Кітая.**

**Чынгіз Алі аглу**
(Азербайджан)



## Птушкі з боку світання

*Птушкі, што прыляцелі*
*з боку світання,*
*крыламі растрапалі*
*перадсвітальны змрок.*

*На далоні мае з гэтага ценю*
*тайнай,*
*часцінкай неба упала*
*жураўлінае, лёгкае, нібы сон,*
*пяро.*

*З ранішніх успамінаў*
*вобраз твой выплывае,*
*быццам бялюткі лотас*
*з сіняй рачной вады.*

*Гэтак жа пуцявіну*
*пёрка маё шукае*
*і пакідае лёгкія*
*словы-*
*сляды.*

## Што застаецца на зямлі

*Што застанецца нам, калі*
*памкнёмся ў вырай ад зямлі?*
*Дзве-тры вясны, дзве-тры зімы,*
*а болей і не маем мы.*

*Калі пагасне сонца ў нас,*
*ці ўспомнім шумных святаў час,*
*ці прыгадаем, як з дваром*
*праводзілі сваіх сяброў?*

*Што застанецца на зямлі?*
*Дзве-тры сцяблінкі на раллі,*
*сустрэчы, страты, што былі…*
*Яшчэ? Адкажа рэшта дзён…*
*Пакуль жывём, пакуль ідзём…*

## Феміда

*Феміда, служка праўды і закону,*
*чаму не пазіраеш ты на свет?*
*Трымаеш шалі ты, сядзіш на троне*
*ды ў цэмры абыякавай жывеш.*

*Увесь наш скарб: надзеі, мары, шалы,*
*дабро і зло — усё мы аддалі.*
*Ды… чый там палец апускае шалю,*
*дзе дабрыня сабраная з зямлі?*

*Я сам сабе суддзя з табой нароўні,*
*трымаю шалі і даю адказ.*
*І клопат мой, заўсёдны і галоўны,*
*каб дабрыня пераважала ў нас.*

**З азербайджанскай.**
**Пераклад Таццяны СІВЕЦ**

**Таір Раджабаў**
(Таджыкістан)



## Лёс

*Даў Усявышні*
*мудрасць, кажуць,*
*нам, —*
*З прыродаю сваёю быць у згодзе.*
*Акуле — зубы, роўныя мячам,*
*Што не пад сілу ворагу, дый годзе.*

*Арлу даў моц сталёвых кіпцюроў,*
*Газелі — бег, каб з ёй спрачаўся вецер,*
*А льву ды тыгру — пыл уладароў,*
*Каб гаспадарылі ў жывёльным свеце.*

*Вось добры слон, магутны, як гара,*
*Крылом зіхціць у паднябессі голуб.*
*Іголкі вожыка — бы зброя вояра,*
*А малпы, як вядома, — свет вясёлы.*

*Абмежаваў Стваральнік іх ад бед…*
*Вось падзямелле. Мышы тут пануюць*
*І есць чарвяк зямлю. Патрэбны след?*
*Усё сабака сваім нюхам чуе!*

*Змяя віецца, быццам шызы дым.*
*Павук сплятае сеткі для ахвяраў.*
*У чыстым небе жураўліны клін*
*На досвітку стралой прасякне хмару.*

*А чалавеку як жа без дароў?*
*Ні крылаў, ні атруты — хваляванні…*
*Стваральнік яму іклаў не знайшоў,*
*І спрыт яго ны не для палявання.*

*Аднак жа Усявышні не забыў.*
*Як, Божа, мы за дар вялікі ўдзячны!*
*Нас розумам так шчыра надзяліў,*
*Што да Яго падобныя, няйначай!*

## Памылкі

*Усіх памылак не пералічыць,*
*Бо свет яны звязалі павуцінай…*
*Ну, а калі пра войны гаварыць,*
*Ці не памылкі сталі іх прычынай?*

*Рустам Сухроба правільна забіў?*
*Джардана Бруна ў вогнішчы спалілі,*
*Суд Галілея спехам асудзіў…*
*Усіх памылак мы назваць не ў сілах.*

*Якія мэты ставілі тады,*
*Якія выгады і дзе шукалі?*
*Стагоддзі — бы струменьчыкі вады,*
*Адно мы разумнейшымі не сталі.*

*Нам Усявышні шлях асветы даў,*
*Ды хто яго прайшоў беспамылкова?*
*Здавалася, што столькі свет спазнаў…*
*І геній не заўсёды верны слову.*

*Па-новаму на даўняе глядзім,*
*Сумненні з ісцін вынікаюць звыкла.*
*Мо правільна ўсё ж Дарвін прасачыў,*
*Адкуль мы… І яшчэ адна памылка.*

*Эйнштэйн — глыбокі тэарэтык тут —*
*Усё, здаецца, сто разоў тлумачыў…*
*Вядомы толькі Богу абсалют,*
*Астатняе ёсць верагоднасць, значыць.*

*Калі вучэнне пазнаеш Хрыста,*
*Адным паглядам тут не абысціся.*
*Няхай у ісціне спрэс толькі прастата,*
*А колькі побач ісцін залаціцца!*

*Рэлігій, храмаў мноства, алтароў,*
*Ці не яны памылак тых пачынне?*
*Адзіны Бог, а думак і размоў*
*Непадабенства — рабства*
*ёсць прычынай.*

*І не бясконцы розум у жывых.*
*І памыляцца ж уласціва людзям.*
*Праходзіць дзень, што непрыкметна*
*сціх,*
*Але і ён для нас карысным будзе.*

**З таджыкскай.**
**Пераклад Яны ЯВІЧ**

**Лі Цінчжаа**
(Кітай)



## Ручай абмывае пясок

*Усмешка зіхаціць*
*на тонкім твары,*
*Заколка зіхаціць у валасах.*
*Адно аднаму кожны позірк дарым,*
*Каханне ў іх забылася на страх.*

*Мой ліст табе атручаны пяшчотай.*
*Пакуль не зменіць месяц кветкі цень,*
*Свае пачуцці дасылаю ўпотай.*
*А там настане стрэчы нашай дзень.*

**З кітайскай.**
**Пераклад Валерыі РАДУНЬ**

## Вясна прыходзіць са спазненнем…

*Вясна прыходзіць са спазненнем,*
*Аблокі каля вокнаў спяць.*
*Туман салодкае трымценне*
*Выходзіць ў белы сад страчаць.*

*Ды смутак зноў палоніць сэрца,*
*З каханым разам толькі ў снах.*
*Галінкі слівы, каб сагрэцца,*
*На поўдзень цягнуцца, пад дах.*

*Іх кветкі дораць мне надзею.*
*Ты, флейта роспачы, не плач!*
*Пялёсткаў лёгкая завея*
*Разгоніць воблакі няўдач.*

*Прасушыць сонца на хвіліну*
*Сляды салёныя ад слёз…*
*Ды саступаць вясна павінна,*
*І закрасуе абрыкос.*

**З кітайскай.**
**Пераклад Юліі АЛЕЙЧАНКА**

# Агульнае шчасце

**Для туркменскай паэтэсы і настаўніцы Агульбеке Аразгельдыевай агульнае шчасце Вялікай Перамогі ў маі 1945 года азмрочана стратай мужа… Гісторыя, якая не можа не хваляваць… Агульбеке, вышкаўшы дыван з партрэтам Маршала Савецкага Саюза Канстанціна Ракасоўскага, разам з землякамі прыехала на 3-і Беларускі фронт. Знайшла тут мужа — ёй дазволілі толькі пагаварыць з ім па тэлефоне… Можна ўявіць, якім гэта было шчасцем для маладых людзей.**
**Падарыўшы камандуючаму фронтам партрэт, Агульбеке вярнулася ў родны аул. Чакала мужа з вайны, вучыла дзяцей. Збірала бавоўну.**
**І жыла ўсімі клопатамі таго драматычнага перыяду.**
**А муж не вярнуўся, загінуў на вайне…**
**Агульбеке пісала вершы. Укладвала ў паэтычныя радкі ўвесь свой боль, усе свае пакуты. Жыхары калгаса «Гузыл гашгун» чыталі творы зямлячкі на памяць. Дзяліліся перажываннямі, асэнсаваннямі, якія хвалявалі маладую жанчыну. А ў 1949 годзе паэтэсы не стала, яна заўчасна пакінула свет.**
**Засталіся яе вершы. Сёння яны гучаць і па-беларуску — у перакладзе лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Міколы Мятліцкага.**

**Сяргей ШЫЧКО**

**Агульбеке Аразгельдыева**
(Туркменістан)

## Ля млына

*Ля млына бабуля сівая*
*На мяне пазірне — галавою ківае.*
*Ніколі яе дасюль не страчала.*

*— Чыя ты дачка? — пытанне гучала.*
*— Я ўнучка Кымыша-дузчы*.*
*— Так-так… Ты з гэтых, сасланых.*
*Ты з выдатнай сям'і.*

*— А яшчэ — дачка я Аразгельды,*
*Што бабулі Джэмал сынам даводзіцца.*
*— Маці ваша ў далёкіх краях,*
*Напэўна, ад скрухі зводзіцца…*

*Аразклыч, Аразгельды —*
*Багатыры два, сілачы!*
*Пакуль побач былі — заўжды*
*Шчасце чуў свае Кымыш-дузчы…*

*А потым яна прыгадала*
*Дзядзькі майго радню.*
*Ліхая гадзіна настала,*
*Пакрыўдзілі Кымышаў упершыню.*

*Сказала на развітанне мне*
*З усёй сілай сардэчнага пачуцця:*
*— Ты не вінаватая перад людзьмі…*
*А ліха, глядзіш, праміне.*
*Добрых людзей ты дзіця!*

*Пасля такіх ветлівых слоў*
*Я за плячамі пачула крылы.*
*Ногі мяне неслі штосілы,*
*Калі з млына бегла дамоў.*

*Добрае слова сэрца маё адагрэла,*
*Прамень зыркай надзеі дало.*
*Я бегла дамоў, а за мною ляцела*
*Не зло, а млына крыло.*

**Дузчы — чалавек, які займаецца дастаўкай солі і гандлем ёю.*

## Нам з Акмалы прыйшло пісьмо

*Віншую вас, бушлук*, «Гаплан»**!*
*Нам з Акмалы пісьмо прыйшло.*
*Максуд акга, Балы акга***…*
*Шлюць прывітання вам святло.*

*Бабулі з дзедам прачытаць*
*Паспела ўжо пісьмо не раз.*
*Яго чытае Акджагуль*
*Усім, хто пераведаў нас.*

*Да дзядзькі мчуся я цяпер —*
*Супыну радасці няма.*
*Хачу і ім я прачытаць*
*Радкі душэўнага пісьма.*

*Як дзядзька ўсцешыцца Сейіт,*
*Хамат… і ўвесь іх родных гурт.*
*У ліку многіх слухачоў*
*Пісьму парадуецца Гурт.*

*Пісьмо з далёкай Акмалы*
*Род страпянула «Башбяла».*
*У ім мудрасць бацькі, і любоў*
*Радкам матуля аддала.*

*Пішыце, родныя, часцей,*
*Хай скрухі зрушыцца туман.*
*Лісты — як белыя бінты*
*Для незагойных нашых ран.*

**Бушлук — радаснае паведамленне.*
*** «Гаплан» — назва племя.*
****Акга — прыстаўка да імя, якая азначае слова «бацька».*

## Шукаю цябе

*Мы з землякамі рушылі ў дарогу,*
*Шлях выпаў, поўны смутку і трывогі,*
*Туды, дзе бой грыміць, к байцам дайсці.*
*Мы едзем на вайну з надзеяй вас знайсці.*

*Далёка фронт, а дух вайны паўсюдна,*
*Трывогаю ахоплены ўвесь люд наш.*
*Не знала я, што сэрца ўздрыгне спудна,*
*Ды мы з надзеяй крочым вас знайсці.*

*Ужо за тыднем тыдзень прамінае,*
*Здаецца, шлях наш і канца не мае.*
*Зямля ў агні, мы блізка, смерць шугае.*
*Мы на вайне з надзеяй вас знайсці.*

*Паветра густа порахам працята,*
*Забітых колькі, раненых багата.*
*Нам не забыць твар кожнага салдата*
*З дарог, што мы прайшлі,*
*каб вас знайсці.*

*Я адчуваю: побач ты заўсёды!*
*Агаберды! Нам стрэча — ўзнагарода*
*За тое, што прайшла ўсе перашкоды*
*З надзеяй чутай, што цябе знайду.*

*Ды бой грыміць — і ты на полі бою!*
*І праз агонь не стрэцца нам з табою.*
*Твой голас чую ў рацыі з журбою —*
*Шчаслівая: жывы, знайшла цябе!*

**З туркменскай.**
**Пераклад Міколы МЯТЛІЦКАГА**



Ато ХАМДАМ

**Зоркі свецяць людзям нават тады, калі згасаюць. Іх святло яшчэ доўгія тысячагоддзі струменіцца, дасягаючы Зямлі, і служыць для людзей крыніцай натхнення, абуджае ў іх душах найлепшыя пачуцці і памкненні.**

**Такой крыніцай натхнення для пісьменніка Ато Хамдама была яго жонка. Мне пашчасціла ведаць яе. Гэтая спакойная, мудрая і разважлівая жанчына была адной з тых, хто становіцца для мужчын шчаслівым дарункам лёсу. Яна была для Ато Хамдама тым ціхім прыстанкам, у якім караблі адпачываюць пасля навальніц і доўгіх пераходаў. Яна была для яго надзейным апірышчам, добрай дарадцай і спрыяла яго творчасці. Невыпадкова ў многіх творах пісьменніка ў жаночых вобразах увасобіліся найлепшыя рысы характару Саідабону, яе разуменне жыцця, філасофскае асэнсаванне ўзлётаў і падзенняў, непазбежных у жыцці кожнага з нас.**

**Новая кніга Ато Хамдама «І так бывае» (Душанбэ, «Эрграф», 2014 г.) прысвечана жонцы. Гэта даніна яе светлай памяці. І хоць яна заўчасна пайшла з жыцця, яе душэўная цеплыня і адметнае святло яшчэ доўга будуць заставацца з тымі, хто ведаў яе, хто захапляўся яе здольнасцю жыць на гэтай зямлі з разуменнем свайго жаночага абавязку. Яна любіла жыццё, сваіх родных, сваю сям'ю, была чулай ды ўважлівай да людзей і служыла для нас усіх выдатным прыкладам дабра і чалавекалюбства.**

**Леанід ЧЫГРЫН**

# Сэрца, адданае людзям

1992 год. Таджыкістан ахоплены полымем міжусобнай вайны. Брат ваяваў з братам, бацька і сын знаходзіліся па розныя бакі барыкад… У той трывожны, лёсавызначальны час я ўзначальваў Міністэрства культуры. Мая сям'я жыла тады на ўскраіне горада, у махале Авул, дзе адбываліся баявыя сутычкі. Кватэра была непрывабная, на чацвёртым паверсе спарахнелага дома, і патрабавала добрага рамонту.

Але, як кажуць, няма ліха без дабра. Аднойчы гарадскі старшыня, мой стары знаёмы, запрасіў мяне да сябе і сказаў:

— У 84-м мікраёне на беразе канала здаём дзевяціпавярховы жылы дом. Я ведаю вашы жыллёвыя ўмовы. Акрамя таго, баевікі адабралі ў вас службовую машыну, да работы дабірацца далёка. Таму мы вырашылі на другім паверсе новабудоўлі прапанаваць вам чатырохпакаёвую кватэру. Ордар выпісаны. Калі ласка! — Старшыня працягнуў мне ордар. — Схадзіце з жонкай, паглядзіце кватэру. Калі што не так, скажыце, і мы адразу ліквідуем недахопы.

Не ведаю чаму, але Саідабону паставілася да гэтай навіны спакойна. Я нават не зразумеў, узрадавалася яна ці… З гэтай нагоды на яе твары не заўважалася ніякіх асаблівых пачуццяў. Я сказаў ёй, каб яна збіралася — пойдзем глядзець новае жыллё. Калі не спадабаецца, здадзім ордар і будзем яшчэ чакаць.

Праз гадзіну мы з жонкай былі ў 84-м мікраёне. Новы будынак быў бачны здалёк і прыцягваў увагу чысцінёй і каляровымі аздабленнямі. Звяраючыся з ордарам, мы неўзабаве адшукалі свой пад'езд. Падняліся на другі паверх, я ўжо трымаў у руках ключ, каб адамкнуць дзверы, але, на здзіўленне, пачуў у кватэры галасы. Я падумаў, што мы памыліліся і прыйшлі не туды. Яшчэ раз паглядзеў на ордар, пасля зноў на нумар кватэры. Не, ніякай памылкі, усё правільна. Ключ не спатрэбіўся, дзверы былі адчыненыя. Мы зайшлі ў кватэру. Малады хлопец, яго жонка і некалькі дзяцей выйшлі нам насустрач.

Мы павіталіся, і я спытаў у хлопца:

— Відаць, тут нейкая блытаніна? Гэта ваша кватэра?

Хлопец апусціў галаву і ледзь чутна вымавіў:

— Не, гэта не наша кватэра.

— Значыць, мы прыйшлі правільна. Згодна з ордарам, гэтае жыллё належыць нам.

— Усё так, — адгукнуўся ён.

— Тады скажыце, як вы трапілі ў кватэру? Хто вам даў ключ?

— Ніхто не даваў. Я аслабіў замок у дзвярах, і мы сюды ўвайшлі.

— А хто вам даў права самавольна займаць жыллё, якое, згодна з законам, належыць іншым людзям? Вы ведаеце, што за гэта вас прыцягнуць да адказнасці?

Я гаварыў гучна, раздражняючыся ўсё больш. Саідабону ўзяла мяне за руку і пакруціла галавой, стараючыся супакоіць.

Праз некалькі хвілін высветлілася, што гэтая маладая сям'я жыла ў махале Каратэгін. Пасля аднаго з бясконцых дажджоў, два дні таму, іх жыллё змыў сель, і яны з дзецьмі засталіся на вуліцы. Пацярпелі і сваякі, і не было магчымасці схавацца дзе-небудзь ад непагадзі. Хтосьці падказаў, што ў 84-м мікраёне пабудавалі новы дзевяціпавярховік і яшчэ не ўсе кватэры занятыя. Ідзіце, маўляў, туды, узламайце замкі і займайце першую, якая трапіцца, кватэру. Ніхто не мае права выгнаць вас адтуль разам з дзецьмі…

Хлопец расказаў гэта, а потым дадаў:

— Прабачце, муалім, я вас ведаю. Не трымайце на нас зла. Дайце нам два-тры дні, мы знойдзем сабе прытулак і вызвалім вашу кватэру.

Я паглядзеў на Саідабону і спытаў:

— Што будзем рабіць? Пачакаем?

— Не! — рашуча сказала жонка. Яна паглядзела на ўстрывожаных дзяцей, якія гатовы былі заплакаць, пасля на сумныя твары маладых мужа і жонкі. — Чаго будзем чакаць? Калі яны пойдуць адсюль на вуліцу? Не!

Яна зноў узяла мяне за руку.

— Ато Хамдамавіч, дарагі! Сапраўды, мы жывём далёка і махала наша неспакойная, але ўсё ж такі ў нас ёсць дах. Не тое што гэтыя небаракі. Я не магу глядзець на гэтых няшчасных дзяцей. Паслухайце мяне, пакіньце ім ордар на гэтую кватэру. Хай гэта будзе наш падарунак ім. І дапамажыце ім аформіць дакументы на кватэру. Вось і ўсё, хадзем дамоў.

Шчыра кажучы, я збянтэжыўся ад таго, што пачуў. Калі б на месцы Саідабону была іншая жанчына, невядома, як бы яна зрабіла. Зрэшты, няцяжка было здагадацца. І я ў каторы раз узнёс хвалу Усявышняму за тое, што ён даў мне жонку з характарам анёла і сэрцам, поўным любові да людзей.

Я працягнуў ордар хлопцу са словамі:

— Трымай, дружа, гэта табе на шчасце!

Мы з жонкай пакінулі кватэру.

З таго дня мінула больш за дваццаць гадоў. Не буду гадаць, як уладкавалася маладая сям'я ў прызначанай для міністра культуры кватэры, якая ў адно імгненне, згодна з жаданнем жонкі, стала іх маёмасцю. Хацелася б думаць, што ў іх усё было добра. Галоўнае, што мы з жонкай зрабілі так, як нам загадвалі сэрца, сумленне і абавязак. І калі малады мужчына і яго жонка захоўваюць у памяці той выпадак, хай узгадаюць нас добрым словам і малітоўна правядуць па твары рукамі, пажадаюць маёй дарагой Саідабону вечнага супакаення і райскага шчасця…

# Крадзеж таксама прафесія…

Аднойчы Саідабону памыла некалькі сукенак і павесіла іх сушыцца на вяроўцы, нацягнутай паміж дрэвамі. Раніцай я выйшаў у садочак і ўбачыў, што на вяроўцы нічога няма. Ад памытага адзення не засталося і следу. Дома я спытаў жонку:

— Ты, відаць, пазнімала ўжо сукенкі і занесла ў кватэру?

— Не, а што здарылася? — занепакоілася тая.

— Выйдзі на двор і ўсё зразумееш…

Праз некалькі хвілін Саідабону вярнулася ў дом і са скрухай уздыхнула:

— І раней, здаралася, я забывала памытую вопратку, дык нікому да яе справы не было. А цяпер…

— Нічога не зробіш, жонка. Усё ў свеце рухаецца да дасканаласці. Праўда, у той ці іншы бок.

На наступны дзень мы з жонкай ішлі па вуліцы ў 82-м мікраёне. Дзень быў сонечны, цёплы, спяшацца не хацелася. Нечакана Саідабону схапіла мяне за руку.

— Паглядзіце вунь туды, — у яе голасе чулася хваляванне.

— Куды? На каго?

— Уперад, на тую дзяўчыну…

Я паглядзеў. Дзяўчына гадоў дваццаці-дваццаці двух у прыгожай сукенцы ішла наперадзе.

Саідабону прыспешыла крок, дагнала дзяўчыну, схапіла за локаць і адвяла ўбок. Здзіўленая дзяўчына, у разгубленасці гледзячы на жанчыну сталага веку, спрабавала вызваліць руку, але Саіда моцна трымала яе.

— Дзе ты ўзяла гэтую сукенку? — спытала жонка.

— Як гэта дзе? Яна мая, — дзяўчына рабіла выгляд, што нічога не разумее.

— Што ж ты не пачакала, пакуль яна высахне? Апранаць мокрую сукенку не варта, можна прастудзіцца, калі дзьме вецер.

Дзяўчына працягвала рабіць выгляд, што не разумее, пра што гаворка, і нават абурылася, што мы яе распытваем:

— Якая вам справа да маёй сукенкі і да таго, мокрай я яе апранула ці сухой? Адпусціце руку, а то я зараз міліцыю паклічу.

Саідабону прамовіла з дакорам:

— Сорам ты страціла. Не ты, а я павінна клікаць міліцыю. Зараз пойдзем у пастарунак і там высветлім, што ды як. Вось тады…

У гэты момант дзяўчына вызваліла руку і хацела ўцячы, але тут адразу ж трапіла на мяне.

— Ну, і куды ты спяшаешся, даражэнькая? Лепш прызнавайся…

— Я… я… — З вачэй дзяўчыны раптам паліліся слёзы. Яна нешта няўцямна мармытала, але мы зразумелі толькі адно: яна адзінокая і няма каму паклапаціцца пра яе. На працу нідзе не прымаюць. Вось і вымушана была…

Саіда паківала галавой.

— І крадзеж стаў тваёй прафесіяй. Толькі ты кінь гэты занятак, бо для цябе гэта дрэнна скончыцца. Калі б ты звярнулася да мяне па-людску, я табе новую сукенку дала б. Больш такімі справамі не займайся.

— Дзякуй, ападжон. Але што ж мне цяпер рабіць? — румзала дзяўчына. — Дайце мне паўгадзіны, я пайду пераапрануся і прынясу назад вашу сукенку.

Але Саідабону не згадзілася.

— Не, хай застаецца так, як ёсць. Гэтая сукенка мне ўжо не пасуе, а на табе выглядае даволі добра. Насі на здароўе, але не забывайся на мае словы. Больш не крадзі. Дарэчы, а дзе ўсё астатняе?

Дзяўчына здзіўлена паглядзела на яе:

— Не ведаю, я ўзяла толькі сукенку.

Саідабону ўздыхнула.

— Яшчэ нехта папрацаваў. Ну добра, скрадзенага не вернеш. А з працай, я думаю, табе дапаможа… — Саіда павярнулася да мяне, — вось гэты чалавек. Ці так, шаноўны?

— А як жа, чаму ж не дапамагчы, — пагадзіўся я. — Заўтра з раніцы прыходзь да мяне, — і я працягнуў дзяўчыне сваю візітку.

Інцыдэнт, як кажуць, быў вычарпаны, і мы з жонкай накіраваліся дадому.

# Шчыра спрыялі

У канцы верасня Саідабону пасля чарговага медыцынскага абследавання выпісалася з бальніцы і вярнулася дадому. Пачувалася яна нядрэнна, і настрой быў добры. Было зразумела, што лячэнне пайшло на карысць. Дні праз два я прыехаў з працы дамоў, каб папалуднаваць разам з жонкай. Я ўбачыў яе ў пад'ездзе — яна размаўляла з нейкай жанчынай. Саідабону цёпла развіталася з ёю, і мы ўвайшлі ў кватэру.

— Я не ведаю гэтую жанчыну, — сказаў я ў той момант, калі жонка падала мне талерку з шурпой.

— Канечне, адкуль вы яе можаце ведаць? Мы з ёю разам у бальніцы ляжалі ў адной палаце. Толькі сёння яе адпусцілі дамоў. Пазваніла мне і сказала: «Апа, у мяне да вас ёсць справа. Можна я зараз прыеду?» «Безумоўна, — адказала я, — пра што гаворка». Дала ёй наш адрас, вось яна і прыехала. Сама яна з Вахшскага раёна. Гаваркая маладая жанчына, мы з ёю хутка знайшлі агульную мову. Папрасіла, каб я падарыла ёй вашу новую кнігу. Як тут можна адмовіць, я падарыла. Вы не супраць?

— Згодзен, ад шчырага сэрца.

Мая ўхвала ўзрадавала Саідабону.

— І яшчэ з адной просьбай яна завітала. Сказала, што няма грошай на дарогу ў Вахш. Да таго ж нядобра будзе прыехаць да дзяцей з пустымі рукамі. Ім усё адно, адкуль маці з'явілася — з базару ці з бальніцы. Як толькі ўваходзіць у свой двор, адразу глядзяць, што прынесла.

«Колькі табе грошай трэба, сястра?» — спытала я ў яе. «Дзвесце самоні будзе якраз», — адказала яна. Я падлічыла, такой сумы ў мяне зараз няма. Вас турбаваць не хацелася. «Пачакай хвілінку», — папрасіла я. Пакінула яе ў кватэры, паднялася на чацвёрты паверх, пазычыла ў суседкі грошай і вярнулася. «Вось, сястрычка, вазьмі і вырашы ўсе свае праблемы». З гэтымі словамі аддала ёй грошы. «Дзякуй, ападжон, вы не хвалюйцеся. Напрыканцы гэтага тыдня я вам пазыку вярну». Пасля гэтага яна ўстала, і, як вы бачылі, я выйшла, каб яе правесці.

— Правільна зрабіла. Добрая справа, тым больш, як ты сказала, яна разумная і годная жанчына. Зразумела, што аддасць грошы ў прызначаны дзень. Толькі ты доўг суседцы вярні зараз жа. Вось грошы, — я дастаў з партаманета 200 самоні і працягнуў іх жонцы.

Тая адразу ж накіравалася да суседзяў…

У прызначаны дзень ніхто нас не патурбаваў. Прамінула яшчэ два тыдні — той самы вынік. А тады тыдні паляцелі адзін за адным, зліваючыся ў месяцы, а пасля і ў гады. І не было ад той жанчыны, як кажуць, ні слыху ні дыху.

Саіда за гэты час ніколі не ўспомніла пра сваю знаёмую з бальніцы. Я таксама.

А аднойчы, калі я быў у вельмі добрым настроі, пажартаваў:

— Твая названая сястра зусім забыла пра цябе.

Саідабону спакойна адказала:

— Пакіньце гэта, даражэнькі. Яна, гаротніца, відаць, пераадолела нейкія цяжкасці, а тут адразу іншыя навалíліся. Мы з вамі ад двухсот самоні не пабагацеем і не пабяднеем.

— Гэта праўда, — пагадзіўся я, — але вось што мяне непакоіць. Калі і далей будуць з'яўляцца такія сястрычкі, а разам з імі і пляменнікі, ці не стане пустым наш дом?

Жонка пакруціла галавой.

— Пражывём, будзьце пэўныя. Здароўе пакуль што ёсць, дабрабыт не змяншаецца. Творца не пакідае людзей без кавалка хлеба. Давайце больш не будзем вяртацца да гэтай тэмы. Лічыце, што мы шчыра паспрыялі. Менавіта так, — паўтарыла Саідабону, — шчыра паспрыялі.

Гэтымі словамі яна паставіла кропку ў той даўняй гісторыі і пачала займацца сваімі справамі…

**З таджыкскай.**

**Пераклад Ірыны КАЧАТКОВАЙ**

## Роберт МІНУЛІН:

# «Еўразія — унікальная крыніца духоўных каштоўнасцей»



**Народнага паэта Татарстана Роберта Мінуліна добра ведаюць у Расіі ды іншых постсавецкіх краінах. Кнігі літаратара, які актыўна працуе ў паэзіі, дзіцячай літаратуры, піша песні, пабачылі свет не толькі на роднай татарскай мове, але і на рускай, башкірскай, удмурцкай, чарнагорскай, азербайджанскай, чувашскай, марыйскай. Асобныя вершы надрукаваны на англійскай, турэцкай, польскай, казахскай, украінскай, беларускай, эстонскай, каракалпацкай мовах. Што ні кажы, уражвае. Маладая беларуская паэтэса Яна Явіч зараз рыхтуе кнігу перакладаў вершаў Роберта Мінуліна, адрасаваных юнаму чытачу. Некалькі гадоў таму народны паэт Татарстана ўдзельнічаў у круглым стале замежных пісьменнікаў у Беларусі.**

**— Культуры розных народаў — яны раздзяляюць нас у еўразійскай прасторы, служаць перашкодай ці ўсё ж такі здольныя станоўча ўплываць на прагрэс, садружнасць?..**

— Калі быў маладым паэтам, я так хацеў, каб пра мяне гаварылі ці пісалі, што я — татарскі савецкі пісьменнік. Гэта так пачэсна гучала. Але такое званне давалі толькі знакамітым класікам. Толькі пасля, праз многія гады, з Вікіпедыі я даведаўся, што «Роберт Мінулін — савецкі і расійскі паэт, журналіст, палітычны дзеяч». Выходзіць, усё ж такі я быў савецкім пісьменнікам...

Мы ўсе жылі адной вялікай, дружнай сям'ёй, ведалі гісторыю, звычаі, культуру адно аднаго, з задавальненнем, цікавасцю чыталі кнігі вядомых нацыянальных пісьменнікаў, паэтаў і празаікаў. Яны былі агульнымі для ўсіх нас. Мы аб'ядноўвалі і ўзбагачалі сваё асяроддзе. Маскоўскія спецыялізаваныя выдавецтвы перыядычна выпускалі кнігі нацыянальных пісьменнікаў, арганізоўваліся абменныя Дні літаратуры і мастацтва рэспублік і г. д. Мы бачылі ўсіх вядомых людзей з розных рэспублік... У той самы час кожны народ жыў сваім жыццём: сваімі песнямі, міфамі, легендамі, паданнямі, звычаямі, традыцыямі... Увогуле ж мы вельмі падобныя, але адначасова і вельмі розныя. У кожнага з нас свая мова, свой фальклор, свае народныя песні і танцы, свае шматвекавыя абрады, вопратка, ежа, культура паводзін, прыкладное мастацтва, свая філасофія, свой побыт... Культуры розных народаў, канечне ж, збліжаюць, узбагачаюць нас. Еўразія ў гэтым сэнсе — унікальная крыніца міжнацыянальных культурных, духоўных, рэлігійных і гістарычных каштоўнасцей.

Мы жывём у камп'ютарны час: тэлебачанне, інтэрнэт, тэлефоны, айфоны, айпады... Так, свет мяняецца. Але чалавечая душа — яна ж застаецца ранейшай. А літаратура і ёсць душа, пачуцці, перажыванні, дабрыня, любоў, нянавісць...

**— Вы асабліва шмат працуеце ў галіне дзіцячай літаратуры. Ці верыце ў тое, што заўтрашнім пакаленням юных чытачоў будзе зразумелы Пушкін? Ці будуць дзеці праз сто гадоў чытаць Лермантава, Някрасава, Талстога, Габдулу Тукая, Янку Купалу, Васіля Вітку?**

— Так, я ўсё жыццё пішу для дзяцей і гэтым вельмі ганаруся. Мае дзіцячыя кнігі, упэўнены, патрэбны юным чытачам. Яны папулярныя сярод дзяцей і бацькоў, выкладчыкаў, выхавальнікаў. Я ўпэўнены, што сённяшнія юныя чытачы з часам будуць чытаць і мае кнігі, адрасаваныя дарослым. А класіка ёсць класіка. Без яе не можа быць вялікай літаратуры. Класіка адлюстроўвае мастацкі ўзровень літаратуры, духоўнасць народа, яго традыцыі, здольнасць народа зазірнуць у будучыню. І пакуль жывы народ, пакуль жывая яго мова, літаратура, то і праз сто гадоў будуць запатрабаваны і Аляксандр Сяргеевіч Пушкін, і Янка Купала, і Мікалай Някрасаў, і Габдула Тукай, і Васіль Вітка.

**— Якую кнігу татарскага пісьменніка паэт Роберт Мінулін параіў бы прачытаць рускім, беларусам, казахам, азербайджанцам, палякам, немцам? Ці ўсім народам гэтая кніга будзе аднолькава зразумелай?**

— Шматвекавая татарская літаратура багатая ўнікальнымі, яркімі талентамі. Гэта незабыўныя Габдула Тукай, Муса Джаліль, гэта малавядомыя на постсавецкай прасторы Галімджан Ібрагімаў і Гаяз Ісхакі... Цудоўная плеяда выдатных, шырокіх у сваіх поглядах на жыццё празаікаў: Аяз Гілязаў, Ахсан Баянаў, Гарыф Ахунаў, Мухамат Магдзееў... Яшчэ ў сямідзясятыя гады народны паэт Башкартастана Мустай Карым пісаў: «У Татарыі ёсць выдатная проза, на якой мы, цюркамоўныя літаратары, вучыліся і вучымся. Пра гэтую выдатную татарскую прозу рускі чытач мае даволі прыблізнае, самае павярхоўнае ўяўленне. Бо перакладаецца, паверце, не ўсё лепшае. Гэта можна сказаць і пра нашу яскрава выражаную нацыянальную паэзію...» Так, была і ёсць такая праблема. І ў савецкі час да татарскай літаратуры адносіліся як да літаратуры аўтаномнай рэспублікі. У нас традыцыйна моцная паэзія. Напрыклад, паэты-шасцідзясятнікі... І гэта рэдка заўважаецца, рэдка падкрэсліваецца. Асабліва ў іншых нацыянальных літаратурах... Я ў першую чаргу парэкамендаваў бы прачытаць «Маабіцкі сшытак» вялікага паэта Мусы Джаліля.

**— А ўсё-такі як лічыць майстар мастацкага слова, ці можна спалучаць інтэграцыю і незалежнасць, інтэграцыю і суверэнітэт?**

— Так, можна. І нават трэба! Хаця ў гэтым свеце, у тым ліку і ў літаратуры, усё адносна. У сусветнай літаратуры ёсць шмат розных прыкладаў на гэты конт. Нацыянальны пісьменнік, дзе б ён ні жыў, на якой бы мове ні пісаў, павінен заставацца найперш пісьменнікам свайго ўласнага народа, сваёй Радзімы. Такімі якраз і былі многія рускія пісьменнікі ў эміграцыі, такімі былі амерыканскія, лацінаамерыканскія пісьменнікі... Нашы блізкія сучаснікі Чынгіз Айтматаў і Васіль Быкаў таксама былі такімі. А Фазіль Іскандэр, Алжас Сулейменаў... Наш Равіль Бухараеў... Сапраўднаму нацыянальнаму і незалежнаму пісьменніку інтэграцыя, глабалізацыя не толькі не перашкаджаюць, а, наадварот, дапамагаюць і набліжаюць да агульначалавечых каштоўнасцей, адкрываюць новыя духоўныя далягляды. Але, на вялікі жаль, не заўсёды так атрымліваецца. І гэта, як мне падаецца, найперш звязана з мовай. Мова ў літаратуры — усяму галава. Магу прывесці прыклады з нашай літаратуры. Татары, як толькі пераходзяць на рускую мову, адразу становяцца рускімі пісьменнікамі ці паэтамі. Гэта неяк так гістарычна склалася. Скажам, мы любім пахваліцца, што вялікія рускія пісьменнікі Гаўрыіл Дзяржавін, Іван Тургенеў, Аляксандр Купрын, Сяргей Аксакаў, Ганна Ахматава, Бэла Ахмадуліна ды іншыя знакамітасці — татарскага паходжання. Ну і што?!. Гісторыя і сёння працягваецца. Напрыклад, у вядомага рускага паэта Міхаіла Львова сапраўднае прозвішча і імя Рафкат Малікаў, татарскі хлопец Рэнат Суфееў з часам стаў вядомым рускім паэтам Раманам Сонцавым. Татары таксама служаць іншым народам у якасці пісьменнікаў, паэтаў. З'яўляюцца донарамі — у іншых культурах, іншых літаратурах. Вось свежы прыклад. У апошні час шмат размоў, шмат шуму вакол кнігі Гузель Яхніной «Зулейха расплюшчвае вочы». Яна ж наша суайчынніца, родам са сталіцы Татарстана Казані. У цяперашні момант, праўда, жыве ў Маскве, піша па-руску. Кніга атрымала самыя прэстыжныя расійскія літаратурныя прэміі. Але ёсць некаторыя акалічнасці: у кнізе адчуваецца няведанне татарскага жыцця, побыту і характару. Дарэчы, такія метамарфозы можна знайсці ўсюды. Гэта плод інтэграцыі, глабалізацыі? Я не ведаю... А, можа быць, гэта плод таго, што нехта забываецца на сваю радзіму? І ўсяго толькі... Адназначна адказаць на пытанні такога фармату немагчыма. Але ёсць суддзя — час. І, між іншым, вельмі справядлівы суддзя...

**Гутарыў Кірыл ЛАДУЦЬКА**
*Казань — Мінск*

---

**Роберт МІНУЛІН**

## Калі дарослым стану…

*Калі дарослым стану,*
*Ужо дакладна я*
*Бацькоў прасіць не стану,*
*А сам куплю шчаня!*

*Яшчэ квіткоў набуду*
*На ўсё, на ўсё кіно!*
*Яшчэ прысмакаў-цудаў —*
*Не еў я іх даўно!*

*Марожанага — порцый,*
*Напэўна, дваццаць пяць!*
*Ці скрыню на ўсе грошы*
*Мне прыйдзецца купляць?..*

*Яшчэ і пра сцізорык*
*Мне б лепей не забыць!*
*Веласіпед, ды добры!*
*Машыну мо купіць?..*

*Не думайце, што гэта*
*Мне трэба аднаму.*
*Купіў бы ўсё на свеце*
*Сыночку я свайму!*

*Купіў бы што заўгодна,*
*Што б ён ні папрасіў…*
*А мне… сабачку… сёння…*
*Мой тата не купіў!*

## Такі вялікі

*Ужо даўно я*
*не малы*
*і сам чытаю кнігі.*
*Раней казалі: «Бачыш ты,*
*які хлапчук вялікі!»*
*Мне нават выціралі нос,*
*насілі*
*на руках…*
*Ну а цяпер,*
*калі падрос,*
*ніхто не скажа: «Ах!*
*Які вялікі*
*ужо ён стаў,*
*Як вырас*
*наш Гашым!..»*
*А я расці*
*не перастаў —*
*Быць перастаў*
*малым!*
*Я так стараўся,*
*вырастаў!..*
*Ды росту больш майму*
*цяпер не чую я*
*пахвал,*
*не ведаю чаму…*

## Дапамагаю маме

*З татам на вёску*
*я ад'язджаю.*
*Штодзённа адтуль*
*я пісаць абяцаю.*

*Хоць ад'язджаю*
*толькі на лета,*
*плача матуля —*
*сумна ёй гэтак…*

*Можа, яна*
*перастане хутчэй,*
*калі і ў мяне*
*пойдуць слёзы з вачэй?*

*Плакаць увогуле*
*я не аматар!..*
*Нас супакоіць*
*стараецца тата:*

*«Вось, развялі мне*
*тут слоту, глядзі ты!*
*Плакаць ці можна*
*такому джыгіту?!»*

*Скажыце, за што*
*ён мяне папракае?!*
*Гэта ж я маме*
*дапамагаю!*

## Залаты хлеб

*Паважаем белы хлеб!*
*Чорны паважаем!..*
*Залатыя зернейкі —*
*Ураджай збіраем.*

*Да таго ж расцім мы хлеб…*
*Толькі ўсім вядома,*
*Што вырошчвае ўсіх нас*
*Сам хлябок цудоўны!*

*Хлеб ядзім і з кожным днём*
*Хутка падрастаем.*
*Адарыла нас цяплом*
*Ніва залатая…*

*Без яго і стол не стол —*
*Хлеб жа тут галоўны!*
*Ад зямлі да нас дайшоў*
*Каравай каштоўны!*

*Мы збіраем ураджай*
*Залацісты, спелы…*
*Найсмачнейшы чорны хлеб!*
*Найсмачнейшы белы!*

## Над Казанню

*Калі ў вышынным доме*
*Стаю я на балконе,*
*Казань перада мною*
*Ляжыць як на далоні.*

*Магу глядзець падоўгу —*
*І не засумаваў я! —*
*На горад і на Волгу,*
*На краны ля прычалаў.*
*Вось Крэмль беласнежны,*
*Вось цырк і стадыён…*
*А ўвечары, канечне,*
*Агні — ды іх мільён!*

*А зверху свецяць зоркі.*
*Здаецца мне парой,*
*Што вось адсюль так лёгка*
*Да іх дастаць рукой…*

## Зорачкі

*На рыбалку ўчора мы*
*ўвечары хадзілі.*
*Скажам шчыра, без маны:*
*зорачкі вудзілі.*

*Налавілі да краёў*
*мы вядро да ранку.*
*Ну, а зорачкі наноў*
*пачалі гулянку.*

*Серабрыстаю луской*
*весела блішчэлі…*
*Так шкада: яны з зарой*
*раптам адляцелі.*

*За аблокі адышлі,*
*ды без развітання…*
*Іх бы самі мы з зямлі*
*адпусцілі ўранні.*

**З рускай.**
**Пераклад Яны ЯВІЧ**

# Сталічнае жыццё паэта

## Да стагоддзя вяртання Максіма Багдановіча на Радзіму

**З маленства адарваны ад Бацькаўшчыны Максім жыў марай пра яе. Калі пачуў народныя песні ў выкананні цётак, Марыі і Магдалены, абудзілася цяга да свайго, роднага, — генная памяць. Юны Максім самастойна вывучыў беларускую мову і гадоў з дзесяці пачаў пісаць на ёй вершы. Гадамі выпеставанай, выпакутаванай ідэяй было вярнуцца на Беларусь і працаваць на карысць свайго народа.**

### ВЯРТАННЕ ЯК ТРЫУМФ

Здзейсніць задуманае ён змог толькі пасля заканчэння вучобы ў Яраслаўскім ліцэі ў верасні 1916 года. Адам Ягоравіч успамінаў: «Як звычайна, у паездку я яго сабраў сам. З трывогай я яго адпускаў, але не было як даць рады: радзіма была цэнтрам яго прыцягнення, туды вабілі яго ўсе жывыя цікаўнасці і сімпатыі. Я разлічваў на іх жыватворнае ўздзеянне, прытым ён пераконваў мяне, што яго ўладкуюць у Мінску ў плане задавальнення жыццёвых патрэб як можна лепш».

Максім Багдановіч вяртаўся на радзіму прызнаным паэтам. Пачаўшы друкавацца ў «Нашай ніве» ў 1907 годзе, заваяваў усеагульную любоў і прыхільнасць, а выхад яго адзінага прыжыццёвага зборніка паэзіі «Вянок» у 1913 годзе быў вельмі высока ацэнены крытыкамі. Прыезду ў Мінск папярэднічала перапіска з дачкой Ядвігіна Ш., беларускай пісьменніцай Вандай Лявіцкай.

Тут яго чакалі. Блізкая сяброўка Максіма Зоська Верас пісала:

«Нарэшце ў канцы верасня ці мо ў пачатку кастрычніка М. Багдановіч прыехаў. Спаткаў яго А. Смоліч і прывёў у «Беларускую хатку», дзе мы цэлай грамадой чакалі іх з нецярплівасцю.

Сардэчны, скромны і просты, М. Багдановіч адразу заваяваў агульную сімпатыю. Ужо ў канцы вечара здавалася, што ён даўно з намі, што ўсім блізкі і дарагі. Тым больш трывожыла яго бледнасць і бліскучыя ад гарачкі вочы. Кашляў зусім мала. Пасля гарбаты сядзелі нядоўга. Трэба было змучанаму дарогай адпачыць. На кватэру адвялі Багдановіча Смоліч, Фальскі і Галубок.

Дагаварыліся, што Багдановіч будзе сталавацца ў «Беларускай хатцы», дзе будзе мець не толькі абеды, але і снеданні, і вячэры. Мая маці была ў той час загадчыцай сталоўкі, і мы жылі тут на месцы. Так што мы з Багдановічам бачыліся па тры разы на дзень, а вечары, як заўсёды, праводзілі разам з цэлай нашай грамадкай. Галубок, Фальскі, Смоліч, Багдановіч, часта Ядвігін Ш., я…»

У той час, калі Максім вярнуўся на Бацькаўшчыну, ішла Першая сусветная вайна. Усе, хто толькі мог, з'язджалі ў пошуках ратунку, эвакуіраваліся. Яго ж не спалохала тое, што Мінск быў прыфрантавым горадам, — усе свае сілы ён хацеў пакласці на алтар служэння Айчыне.

Да сябе, да свайго здароўя Максім ставіўся абыякава. Адмаўляўся піць гарбату з цукрам. На пытанне здзіўленай Зоські Верас адказваў: «…Вельмі перажываю тое, што я бяссільны памагчы тым, хто цяпер, падчас вайны, церпіць голад. Асабліва шкадую дзяцей… Калі я адмаўляю сабе таго, што люблю (бо, прызнацца, люблю салодкую гарбату), мне здаецца, што я раблю нейкую ахвяру, і гэта мне хоць крыху палягчае…». Праз тры месяцы Багдановіч прынёс больш як паўпуда цукру, каб перадалі дзецям бежанцаў. Ён працаваў сакратаром харчовага камітэта мінскай губернскай управы, а яе супрацоўнікі, акрамя заробку, атрымлівалі «паёк», пераважна цукар — вось Максім і аддаў назапашанае.

Акрамя таго, М. Багдановіч актыўна ўдзельнічаў у працы Беларускага камітэта дапамогі ахвярам вайны.

### ШЭДЭЎРЫ Ў СВЯТЛЕ ГАЗНІЦЫ

Пасяліўся Максім у доме Рэдзькі на маленькай ціхай вуліцы Малагеоргіеўскай, наймаў пакой (цяпер — «Беларуская хатка», музей Багдановіча, адзіны будынак у горадзе, чые сцены помняць Максіма. — **Т. Б.**). Суседзямі паэта былі Змітрок Бядуля з сёстрамі Рэняй і Чэрняй. Іх злучыла цёплае сяброўства, пра што З. Бядуля пакінуў успаміны:

«…Каля шасці месяцаў да самага выезду ў Ялту Багдановіч жыў у мяне.

Нягледзячы на слабое здароўе, М. Багдановіч прыняў службу ў земстве, дзе надта шмат працаваў. У вольны ад службы час ён або сядзеў у Пушкінскай бібліятэцы, або дома і займаўся літаратурнай працай. Сядзеў пры керасінавай лямпе штодня да гадзін 3-4 ночы. <…>

Ён страшна захапіўся тады беларускай народнай творчасцю. Чытаў ён мне цэлы цыкл сваіх вершаў на народныя матывы, паміж іншым і верш «Страцім-лебедзь».

Яго рабочы стол быў праўдзівай лабараторыяй паэтычнай творчасці. Ён мог папраўдзе свядома гартаваць і шліфаваць свае паэтычныя перлы, бо быў чалавекам з еўрапейскім выхаваннем: ведаў старакласічныя і новыя еўрапейскія мовы і меў з чаго браць прыклады для мадэрнай беларускай паэзіі».

Падчас мінскага перыяду паэт стварыў такія шэдэўры, як паэма «Страцім-лебедзь» і верш «Пагоня», напісаў «Агляд працы за першы год Мінскага Аддзела Беларускага таварыства для помачы пацярпеўшым ад вайны», артыкул «Голас з Беларусі». Акрамя гэтага, Максім працаваў над артыкулам «Беларускі бежанскі прытулак» (застаўся няскончаным) і разам з А. Смолічам і З. Верас — над чытанкай для пачатковай беларускай школы. Напісаў апавяданні «Гарадок», «Сярод глухой пушчы…», нарыс «Аб веры нашых прашчураў».

У канцы снежня ў Маскве асобнай брашурай выйшаў змястоўны гістарычны артыкул М. Багдановіча на рускай мове «Белорусское возрождение», і гэты ж артыкул у перакладзе на ўкраінскую мову (ёсць верагоднасць, што пераклад зрабіў сам аўтар) выйшаў у Вене.



*Іван Пратасеня. «Максім Багдановіч і Зоська Верас у Мінску. 1916 год».*

### АПОШНЯЕ СВЯТА

Надыходзіў новы, 1917, год. Яго святочная сустрэча ў кампаніі беларускіх сяброў была першай і апошняй для Максіма Багдановіча. Сабраліся ўсе дзеячы беларускага адраджэння, хто быў у Мінску, у «Беларускай хатцы»: пісьменнікі Ядвігін Ш., Альберт Паўловіч з дачкой Уладзяй і зяцем, Фабіян Шантыр, паэт Язэп Фарботка, вучоны Аркадзь Смоліч, публіцыст Аляксандр Уласаў, ксёндз Вікенцій Гадлеўскі, тэатральныя дзеячы Усевалад Фальскі і Уладзіслаў Галубок, адвакат Чавусаў, архітэктар Лявон Дубяйкоўскі, Зоська Верас і яе маці, загадчыца сталоўкі ў «Беларускай хатцы», Эмілія Сівіцкая, Ян Крыўка, а таксама краязнавец і калекцыянер Рамуальд Зямкевіч.

У той час здароўе Максіма вельмі пагоршылася. Але, як згадваў Зм. Бядуля, «…нягледзячы на хваробу, ён і далей працаваў не толькі днём, але і ноччу; працаваў у гарачцы, пры высокай тэмпературы ў 38 — 39 градусаў». Паэт прадчуваў, што засталося яму няшмат, імкнуўся зрабіць як мага больш, не шкадуючы сябе. 21 лютага Мінская губернская харчовая камісія разглядзела прашэнне М. Багдановіча «аб адпачынку для папраўлення здароўя і дапамозе на лячэнне». Было прынята рашэнне «прадаставіць двухмесячны адпачынак з захаваннем утрымання і выдаць аднаразова на лячэнне сродкі ў памеры 200 рублёў». 23 лютага Максім атрымлівае грошы і ў канцы месяца ад'язджае ў Крым.

Але гэта не дапамагло. У ноч на 25 мая яго не стала.

### ЛЁСЫ СЯБРОЎ

Згадваючы вяртанне паэта ў Беларусь, мы не можам не сказаць пра тых, хто быў з ім побач. Адзінай доўгажыхаркай сярод тых, з кім сябраваў у Мінску Максім Багдановіч, была Зоська Верас (1892 — 1992). Яна рэдагавала дзіцячыя часопісы, удзельнічала ў выданні беларускага календара, пісала свае творы. З 1923 года і да апошніх дзён жыла ў лесе пад Вільняй. Туды, у яе «лясную хатку», з'язджаліся ўсе, хто цікавіўся беларускай гісторыяй і адраджэннем. З. Верас стала той, хто звязаў два стагоддзі ў сваім лёсе і хто пакінуў найбольш поўныя ўспаміны пра мінскі перыяд жыцця паэта.

Змітрок Бядуля рашуча падтрымаў Лютаўскую рэвалюцыю 1917 года. У яго творчасці ўзмацнілася ідэя нацыянальнай дзяржаўнасці Беларусі. Бядуля ўваходзіў у арганізацыйнае бюро Беларускай народнай партыі сацыялістаў, вітаў адкрыццё Усебеларускага з'езда. У 1918 — 1920 гадах вёў актыўную публіцыстычную і палітычную дзейнасць з незалежніцкіх пазіцый, выступаў у абарону дэмакратыі, крытыкаваў бальшавікоў, якія недаацэньвалі ў практычным правядзенні сваёй палітыкі нацыянальнае пытанне і дапускалі гвалт. Памёр пісьменнік у 1941 годзе падчас эвакуацыі каля Уральска ў Расіі.

Ядвігін Ш. удзельнічаў у рабоце «Беларускай хаткі», быў другім віцэ-старшынёй Мінскага аддзела Беларускага таварыства дапамогі пацярпеўшым ад вайны. Прадаставіў свой маёнтак у Карпілаўцы для размяшчэння дзіцячага прытулку з Мінска. Стаў адным з заснавальнікаў і тэхнічным рэдактарам часопісаў «Саха» і «Лучынка», ставіў спектаклі, за ўласны кошт выдаў зборнік «Беларускія жарты». Але цяжкія матэрыяльныя ўмовы прывялі да хваробы. Зіму 1918 г. Ядвігін Ш. праляжаў у мінскім шпіталі. Вясной, як гадам раней М. Багдановіч, выехаў з горада, каб больш не вярнуцца. Не дапамагло яму і лячэнне ў Закапанэ. Пісьменнік памёр у 1920 годзе ад туберкулёзу горла ў Вільні.

Аркадзь Смоліч быў абраны ў Беларускі нацыянальны камітэт у 1917 годзе, увайшоў у Выканаўчы камітэт Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый, удзельнічаў ва Усебеларускім з'ездзе, быў адным з ініцыятараў абвяшчэння БНР. Удзельнічаў у стварэнні Таварыства беларускай школы, у 1922 годзе ў Мінску загадваў планава-эканамічным аддзелам Наркамата земляробства БССР, у 1923 г. — кафедрай у БДУ і Інбелкульце. А. Смоліч стаў вядомым вучоным у галіне эканомікі, сельскай гаспадаркі, картаграфіі, а ў 1927 годзе атрымаў званне прафесара. У 1930-м — арыштаваны па справе Саюза вызвалення Беларусі і сасланы ў Пермскую, а затым — у Цюменскую вобласць. У 1937 г. А. Смоліча арыштавалі паўторна і праз год прыгаварылі да вышэйшай меры пакарання.

Усевалад Фальскі з'яўляўся адным са стваральнікаў беларускага прафесійнага тэатра, быў старшынёй Першага беларускага таварыства драмы і камедыі і Мінскага таварыства працаўнікоў мастацтва. У 1918 г. удзельнічаў у стварэнні маскоўскай Беларускай секцыі РКП(б), быў камісарам замежных спраў Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі. У 1919-м — двойчы арыштаваны савецкай уладай, а ў 1921-м займаў пасаду намесніка загадчыка аддзела мастацтваў, вучонага сакратара Акадэмічнага цэнтра Наркамата асветы БССР. У тым жа годзе зноў арыштаваны. Прыгавораны да 5 гадоў катаржнай турмы. З 1925 года жыў у Кіеве, працаваў дырэктарам драматычнага тэатра, перапісваўся з Інбелкультам. Далейшы лёс невядомы.

Уладзіслаў Галубок быў першым артыстам БССР, які атрымаў званне «народнага». З 1917 года працаваў акцёрам і рэжысёрам Першага беларускага таварыства драмы і камедыі, з 1920-га — кіраўніком Драматычнай секцыі культурна-асветніцкай секцыі «Папараць-кветка» ў Слуцку, у 1920 — 1922 гг. — загадчыкам мастацкага аддзела ў Наркамаце асветы БССР. У 1920 годзе стварыў і быў мастацкім кіраўніком Трупы беларускіх артыстаў пры Беларускім рабочым клубе ў Мінску. З'яўляўся членам літаб'яднання «Маладняк» і «Полымя», напісаў каля 40 п'ес на сацыяльныя, гістарычныя і бытавыя тэмы, сюжэты для якіх браў з народнага жыцця і фальклору. З канца 1920-х гадоў на творчасць Галубка пачаліся ганенні і ў 1937 годзе ён быў рэпрэсіраваны. Паводле афіцыйных звестак, памёр ад гіпертанічнай хваробы.

Лявон Заяц, які жыў у адным двары з М. Багдановічам і часта заходзіў да яго, быў палітычным дзеячам. На Усебеларускім з'ездзе 1917 года яго выбралі членам Рады, а з 1918-га — ён у складзе Народнага сакратарыята Беларусі. З 1919 года займаў пасады загадчыка канцылярыі і дзяржаўнага сакратара ў Народнай Радзе БНР. З 1925 г. — кансультант Наркамфіна ў БССР. У 1930 годзе быў арыштаваны па справе «Саюз вызвалення Беларусі», а ў 1935-м — арыштаваны паўторна. Памёр падчас следства ў турме.

Усе яны былі адданымі сынамі сваёй Бацькаўшчыны. Іх магутны талент раскрыўся ў літаратуры, навуцы, тэатральнай, грамадскай і палітычнай дзейнасці. Іх служэнне ідэі нацыянальнага адраджэння, высокая місія жыць і змагацца за тое, каб мы зараз помнілі, хто такія і адкуль, прынесла плён. Так, яны акружалі паэта, былі разам з ім — але і самі па сабе кожны з іх быў велічынёй. Пераломны час нараджае плеяды яркіх асоб, на якіх мы таксама не можам забывацца.

**Таццяна БУДОВІЧ-БАРАДУЛЯ**

# Магічны рэалізм па-беларуску,

## ці Уключэнне ў сусветную прастору

**Чаму мы не бачым на вуліцах, нароўні з выявамі спартыўных каманд, білбордаў з карцінамі легендарных беларускіх мастакоў, такіх як Гаўрыіл Вашчанка, Арлен Кашкурэвіч, Май Данцыг, Аляксандр Кішчанка... Яны застаюцца ў цені галерэй і падручнікаў па гісторыі мастацтваў. Беларусы павінны ведаць тых, хто рэальна прадстаўляе нашу краіну за мяжой, удзельнічае ў фарміраванні сусветнага арт-рынку, бо работы некаторых айчынных творцаў — адны з самых дарагіх у свеце. Такое меркаванне выказаў беларускі скульптар і графік Аляксандр Шапо, чыя выстаўка пад назвай «Сюіта № 45» адкрылася нядаўна ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.**

### У ПАЧАТКУ ГІСТОРЫІ

«Часта выходзіць так, што, скажам, у Еўропе, Амерыцы ці на Усходзе, нашых майстроў пазнаюць і шануюць больш, чым на радзіме. Пленэры Канстанціна Селіханава, напрыклад, не раз скаралі Кітай. Не кажучы ўжо пра Барыса Заборава і Рамана Заслонава. На нашай зямлі жывуць і твораць і іншыя таленавітыя майстры — ад Паўла Татарнікава да Руслана Вашкевіча. Ці шмат людзей, калі да іх падысці на вуліцы, успомняць гэтыя імёны?» — адзначае Аляксандр Шапо.

Многія паездкі за мяжу, удзел у выстаўках і іншых арт-праектах адбываюцца па асабістай ініцыятыве саміх аўтараў. Калі б праграма дзяржаўнай падтрымкі была крыху больш лаяльнай да іх, а ўкладанні ў мастацтва адпавядалі ўкладам у іншыя сферы нашага жыцця, такія як спорт, арт-прастора, у тым ліку рынак мастацтва, стала б развівацца больш дынамічна.

На думку Аляксандра Шапо, Беларусь не была абдзелена талентамі, а наадварот, у мінулым стагоддзі знаходзілася ў цэнтры працэсаў, што ішлі ў выяўленчым мастацтве. «Варта згадаць толькі адну Віцебскую школу з Маркам Шагалам або Восіпам Цадкіным, авангарднае мастацкае аб'яднанне «Уновіс», створанае Казімірам Малевічам. Нават легендарны майстар жывапісу каляровага поля экспрэсіяніст Марк Ротка, аказваецца, нарадзіўся ў Дзвінску, у яго час Віцебскай губерні (сёння горад Даўгаўпілс у Літве). А яго прылічваюць то да рускіх, то да амерыканцаў», — распавядае скульптар.

Многія з работ беларускіх аўтараў знаходзяцца за мяжой. У апошнія гады намаганнямі бізнесу або пры выкарыстанні механізмаў дзяржаўна-прыватнага партнёрства яны вяртаюцца на радзіму. Нядаўна так адбылося са Львом Бакстам, мастаком, сцэнографам і ілюстратарам, чыё імя гучала па ўсёй Францыі. Яго выстаўка з поспехам прайшла ў Мінску, выклікаўшы буру здзіўлення: а гэта ж, аказваецца, наш майстар!

### АРТ-АСЯРОДАК І ГРОШЫ

У Беларусі ў апошнія гады адкрываецца ўсё больш прыватных галерэй, якія актыўна займаюцца продажам і прасоўваннем работ беларускіх мастакоў, фатографаў і скульптараў. У грамадстве стэрэатыпы кшталту «лепш купіць у дом добры ламінат, чым карціну» пастуова ламаюцца. Праўда, сучаснае беларускае канцэптуальнае мастацтва яшчэ прымаюць з асцярогай, у той час як у свеце яно цяпер задае тон. Наш арт-рынак знаходзіцца на стадыі фарміравання і ўваходжання ў сусветны кантэкст, а карціны беларусаў пакуль вышэй цэняцца за мяжой. Напрыклад, праца Васіля Ясюка «Кармэн» прададзена ў Шанхаі, па чутках, за 100 000 $. Хоць цана на творы мастацтва і ў нас можа вылічацца некалькімі тысячамі долараў. «Радаўніца» Руслана Вашкевіча каштавала каля 30 мільёнаў беларускіх рублёў, карціна Сяргея Лагунова «Выпарэнне святла» — 20 мільёнаў, а «Нядзельны дзень» Мікалая Бушчыка — больш як дзесяць. Карціны Рамана Заслонава, пра якога ўжо ішла гаворка, разышліся па прыватных калекцыях амаль усіх кантынентаў зямнога шара.

Але адна справа — асвойваць сусветны арт-рынак, іншая — ствараць свой. Становішча нашай краіны для гэтага вельмі выгаднае: цэнтр Еўропы, стык заходняй і ўсходняй культур. Да нас часта прыязджаюць калекцыянеры з Расіі, Блізкага Усходу, Еўропы. Сярод праблем, над якімі яшчэ варта папрацаваць, — выпрацоўка выразных механізмаў ацэнкі кошту твораў і іх страхавання. Аўкцыённыя дамы, якія у любой еўрапейскай сталіцы можа быць каля 50, актыўна ўдзельнічаюць у фарміраванні дзяржаўнага бюджэту. Так што мець свой арт-рынак выгадна для ўсіх. Задаўшы свае пазітыўныя тэндэнцыі ў гэтым напрамку, стварыўшы атмасферу творчага ўзаемадзеяння, будзе прасцей заявіць пра сябе на ўвесь свет. А беларускім мастакам ёсць што паказаць.

### ФІЛАСОФІЯ АЛЯКСАНДРА ШАПО

Яркі прыклад — выстаўка «Сюіта № 45», свайго роду магічны рэалізм па-беларуску, сплаў сапраўднага і фантастычнага, звычайнага і казачнага. У скульптара асаблівы талент — бачыць свет скрозь міфалагічную і філасофскую прызму.

Экспазіцыя ўключае каля 30 літаграфій і 20 скульптур, што ствараліся на працягу 17 гадоў. Няцяжка здагадацца, што іх бачылі і ацанілі не толькі беларусы. Выстаўка гучыць як падвядзенне вынікаў аднаго з этапаў творчасці. Лічба 45 — гэта ўзрост майстра, які добра зарэкамендаваў сябе ў свеце. Так, у 2008 годзе ён стаў прызёрам прэстыжнай 7-й Міжнароднай трыенале друкаванай графікі Кочы ў Японіі. Яго скульптурныя кампазіцыі ўпрыгожваюць вуліцы беларускіх, расійскіх, украінскіх і літоўскіх гарадоў.



*«Ной», 2015 г.*

У работах Шапо шмат алегорый, сімвалаў, адсылак да іншых твораў, вядомых культурных асоб, гістарычных і міфалагічных персанажаў: Фрыды і Саламеі, Артэміды, Клеапатры і Сапфо, Кармэн, Жазефіны. Ён аддае перавагу асобам моцным, з унутраным стрыжнем. Так, як правіла, жанчынам. Жаночыя вобразы, нягледзячы на ярка выражаны эратызм, вельмі адухоўленыя. Яны не бударажаць пачуццёвасць, а настройваюць на ўдумлівае сузіранне.

Значэнне работ толькі адгадваецца, не прачытваецца прама, і ў гэтым іх прыцягальнасць. Сум — у чорным дажджы, заплюшчаных вачах, манахромнай палітры і зблытаных валасах. Жыццё — у сплеценнях рук, звернутых да неба. Алхімія пачуццяў — у абдымках цел. Рыцар развітваецца з дамай, кажа ёй: «Ты можаш забыць маё каханне. Спакусы побач. Ты юная, і бітвы доўжацца доўгія гады...» Такія тэмы актуальныя ўсюды, незалежна ад нацыянальнасцей. Аляксандр Шапо натхняўся сусветнымі імёнамі — Эрнстам Барлахам, Густавам Клімтам, Альфонсам Мухай, Вільгельмам Лембрукам. Што яшчэ робіць яго творчасць зразумелай у іншых краінах? У цэнтры — чалавек і яго ўнутраная прырода, пачуццёвы, духоўны і разумны пачаткі. Любоў ідзе поплеч са смерцю як дзве самыя моцныя стыхіі, якім няма пачатку і канца. Магічнае мастацтва Аляксандра Шапо размаўляе з гледачом, у якой бы часціцы планеты ён ні знаходзіўся. І ў гэтым, у тым ліку, сакрэт поспеху мастака на прасторы сусветнага арт-рынку.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Быць актуальным —

## абавязковае правіла для мастака, які хоча заставацца запатрабаваным



*«Мадонна без дзіцяці».*

Апошнія гады ў айчыннай мастацкай прасторы ўсё часцей пачынаюць з'яўляцца аўтары маладога пакалення, імёны якіх ведаюць не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Выстаўкі такіх аўтараў, як правіла, праходзяць у прыватных галерэях — яны зацікаўлены ў пошуку маладых мастакоў, якія ў творчасці пазіцыянуюць сябе нетрадыцыйна. Адзін з такіх аўтараў — Павел Амялюсік — нядаўна прэзентаваў мінскай публіцы выстаўку лічбавай графікі ў мастацкай галерэі «A&V».

Многія работы Паўла Амялюсіка вядомыя, яны знаходзяцца ў прыватных калекцыях розных краін свету, сярод якіх Літва, Украіна, Грэцыя, Францыя, Італія, Германія, Іспанія і ЗША. Цікава, наколькі складана сёння творцам прабіцца, акрамя айчыннай мастацкай прасторы, у замежную і чаму яна стала такой прыцягальнай для іх? На гэтае пытанне карэспандэнту «ЛіМа» Павел Амялюсік адказаў асабіста:

— На жаль, у Беларусі няма арт-рынку: колькасць людзей, якія купляюць мастацтва, не вялікая. Таму многія імкнуцца за мяжу. Што тычыцца міжнароднай прасторы, то тут арт-рынак так уладкаваны, што мастаку без галерэі не выжыць. Таму галоўная задача аўтара — знайсці вартую для яго галерэю. Ёсць і крытэрый ведання замежнай мовы, без гэтага шансы выстаўляцца і прадавацца ў іншых краінах памяншаюцца ў разы. Калі хочаш трапіць у замежжа, трэба наведваць кірмашы і выстаўкі сучаснага мастацтва, трэба заўсёды быць у курсе падзей і разглядаць актуальныя тэмы. У мастацкай прасторы важна валодаць дастатковай камунікабельнасцю і добра выглядаць. Можа, хтосьці не пагодзіцца, але ж эпоха неахайных мастакоў прайшла, і цяпер вопратка выконвае адну з галоўных роляў у вобразе творцы. Ну і, канечне, у мастака павінны быць работы, бо гледачам трэба нешта паказваць. Гэта няпроста, бо дзень пры дні аўтар павінен аддаваць гэтай справе шмат часу. А ў цэлым нічога складанага. Канечне, калі вам пашанцуе *(усміхаецца)*.

Напэўна, беларускаму мастаку пашанцавала, і сёння ён актыўна працуе над новымі работамі. Яго апошняя выстаўка складаецца з твораў, створаных у 2016 годзе. Асноўныя складнікі творчасці мастака — фотаздымак, лічбавая графіка і палатно. У сукупнасці яны нагадваюць інтэлектуальную гульню, у якой госць экспазіцыі разгадвае, як і для чаго геаметрычныя элементы спалучаюцца з партрэтамі легендарных людзей. Па афармленні апошняя экспазіцыя падзяляецца на дзве часткі. Першая — шэраг мастацкіх твораў у традыцыйным выглядзе, а другая складаецца з некалькіх дошак для скейтбордаў, упрыгожаных творчымі кампазіцыямі аўтара.

Мастацкія калажы творца распрацоўвае на аснове фотаздымкаў легендарных людзей, апрацоўвае іх на камп'ютары, а пасля лічбавая выява пераносіцца на палатно. У выніку класічныя партрэты, напрыклад, мастака Леанарда да Вінчы, губляюць свой традыцыйны стыль і паўстаюць перад гледачом абсалютна ў новым, арыгінальным фармаце. Падбор колераў для аўтара — справа сур'ёзная. Ён аддае перавагу яркім, рэзкім адценням, якія на ўспрыманне ўплываюць імгненна. Рэлігійныя матывы ў мастака вядучыя. Тэма нараджэння Ісуса Хрыста і яго ўваскрэсення ў работах прасочваецца неадноўчы.

Павел Амялюсік — аўтар, які не паддаецца стэрэатыпам. Ён любіць жыццё, любіць родную краіну, але заўсёды знаходзіцца ў пошуку ідэальнага. У творчасці імкнецца быць на плаву заўсёды і не страчваць умення здзіўляць. Бо пакуль здзіўляць атрымліваецца — мастак застаецца цікавым і прыцягальным.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Дваістасць акцёрскага свету

**Любы акцёр можа трапіць у амплуа, з якога цяжка выйсці: яго бачаць ці толькі сур'ёзным, моцным духам змагаром, ці, наадварот, аднолькава камедыйным і легкадумным персанажам. Акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы (і, дарэчы, кіно) Раман Падаляка не баіцца гэтага, бо заўсёды імкнецца выйсці за звыклыя межы — прафесіяналізму, праблематыкі, што ўзнімаецца ў спектаклях, трактоўкі вобразаў. Непастаянны, нерашучы і схільны да рэфлексіі Ігнат у «Дзвюх душах», нямецкі салдат, які шчыра кахае насуперак выпрабаванням вайны, жорсткі, з моцным напорам і энергетыкай Кастусь Каліноўскі, ці філасофкі Чэхаў, які разважае пра лёс чалавецтва… Акцёр з такім дыяпазонам амплуа ведае, у чым праяўляецца дваістасць, неадназначнасць лёсу беларускага тэатра і кіно, як знайсці баланс паміж сапраўдным мастацтвам і прагай «перавыканаць план», дзе хаваюцца актуальныя для сучасных людзей тэмы.**



Фота з асабістага архіва.

Раман Падаляка.

**— Ці гарманічна, на ваш погляд, сумяшчаецца класіка з сучаснымі пастаноўкамі ў беларускім тэатры? Чаго вы чакаеце ад сучаснай беларускай драматургіі?**

— У беларускай драматургіі, нягледзячы на пазітыўныя моманты, ёсць вялікая праблема: больш за 90 працэнтаў твораў, якія становяцца асновай для спектакляў, пішуцца на рускай мове. Літаратурная база менавіта для сучаснага тэатра ў нас пакуль не вельмі трывалая, так што лепш, на маю думку, карыстацца класічнымі творамі. Мне, напрыклад, куды цікавей іграць Чэхава, чым нейкага хіпстара, фрыка ці іншага псеўдамоднага персанажа. Заўсёды актуальнымі будуць такія спектаклі, як «Дзве душы» па Максіму Гарэцкаму. Пошук уласнай ідэнтычнасці на скрыжаванні Еўропы — тэма вечная для беларусаў. Хтосьці скажа, што яна ўжо надакучыла, але мы так і не зразумелі да канца, хто мы і куды ідзём. Той жа білінгвізм пра гэта сведчыць. Родная мова павінна стаць больш даступнай, але нам па-ранейшаму прасцей так, як прызвычаіліся. З'ява білінгвізму ўжо стала комплексам. Нацыянальны тэатр, такі як Купалаўскі, увогуле не павінен працаваць на дзвюх мовах, бо гэта пачатак канца. Галоўнае — рабіць якасны прадукт. А людзі падцягнуцца. Што тычыцца твораў, то чакае свайго часу для тэатра Караткевіч. Цяжка яго творы ўціснуць у тэатральную прастору, абмежаваць, але гэта было б бяспройгрышнай і актуальнай пастаноўкай. Нядаўна мяне зацікавіў і наш малады аўтар Андрусь Горват, які піша нататкі пра беларускую вёску. Іх бы таксама перанесці на сцэну. Вельмі ж каларытныя і тонка прапісаныя характары.

**— Як вы ўвогуле ставіцеся да рэпертуару нашых тэатраў? Зараз якраз пара адкрыцця сезонаў…**

— Не буду аналізаваць кожны тэатр, але ёсць агульная тэндэнцыя ў рэпертуарах: дысананс паміж неабходнасцю зарабіць грошы і тым, што лічыцца сапраўдным мастацтвам. Калі арыенцір на першую мэту — атрымліваюцца нязмушаныя камедыі з няхітрымі жартамі, калі на другую — ёсць рызыка, што не ўся публіка цябе зразумее, і спектакль не акупіцца. Калі гаварыць пра Купалаўскі тэатр, то я хацеў бы бачыць тут больш сур'ёзных акцёрскіх роляў, так званых чалавечых спектакляў з жывымі шчырымі героямі, чым людзей, уціснутых у прыгожыя касцюмы і пампезныя дэкарацыі. Добра было б паездзіць, абмяняцца вопытам з трупамі тэатраў іншых краін, але з гастролямі цяжка. Яны вымагаюць фінансавых выдаткаў. З фінансаваннем стала больш складана, таму гастролі ўвогуле не да месца. Раней Купалаўскі мог выпусціць тры прэм'еры на год, зараз — толькі адну… З-за грашовых перабояў спыніў сваё існаванне і праект «Тэатр Чэ», у якім я іграў у спектаклі «Дзяды», вельмі нацыянальным, нашым, але… Ён, на жаль, ужо год не паказваецца.

**— Тым не менш, ці ёсць у вас новыя акцёрскія праекты? Каго марыце ўвасобіць на сцэне?**

— Пакуль, з пачаткам сезона, мала што мяняецца. Няма такой работы, якую б я назваў новым крокам у творчасці. Мару сустрэць добрага рэжысёра, сапраўднага генія, паўдзельнічаць у міжнародным праекце, падыхаць новым творчым паветрам… Сыграць хацеў бы, напрыклад, Гамлета, хоць гэта і распаўсюджанае сярод акцёраў жаданне. Але галоўнае — чалавек, які з'явіцца на шляху і памяняе штосьці ў тваім светабачанні, разуменні прафесіі, дасць стымул для росту, натхніць. Роля — другаснае пытанне.



Сцэна са спектакля «Дзяды» паводле А. Міцкевіча.

**— Ці шукаеце ў персанажах, якіх паказваеце на сцэне, нешта агульнае з уласным характарам?**

— Ніводную ролю не адарваць ад сябе. Ты кожны раз пераносіш вобраз праз уласную душу. Гэта ты, але з адзнакай іншага чалавека. Хлусню кажуць, што, будучы на сцэне, можна забыць пра сябе. Бываюць моманты, калі спектакль зацягнуты і ты адчуваеш кожнае дыханне ў зале, паглыбляешся ў стан, падобны да медытацыі. Але нельга татальна не разумець, што адбываецца навокал, і губляць сувязь с партнёрамі на сцэне.

**— А як вы звычайна рыхтуецеся да ролі, каб пранікнуцца атмасферай? Асабліва калі гэта нейкі знакаміты гістарычны персанаж…**

— Калі мы ставілі спектакль «Дзяды», то спецыяльна з'ездзілі ў музей-сядзібу «Завоссе» Міцкевіча, каб адчуць сувязь з майстрам. Мала проста перачытаць твор, важна зразумець звышзадачу: для чаго яго трэба ўвасабляць менавіта зараз, наколькі ўзнятыя ў ім праблемы актуальныя, звязаныя з цяперашняй рэчаіснасцю народа? Часта, каб зразумець ролю, дапамагаюць дробязі з жыцця персанажа: які каўнер ён насіў, ці меў дурныя звычкі і гэтак далей.

**— Вы зняліся ў некалькіх фільмах, таму ведаеце асаблівасці і нашага кінематографа. Па якім шляху ісці беларусам, каб іх кіно, нарэшце, заўважылі ў свеце?**

— Кіно не павінна прыраўноўвацца да планавай эканомікі: так, за гэтую пяцігодку трэба зняць і прадаць у Расію столькі карцін… І гэтак далей. Галоўнае — рабіць прадукт, які будзе зразумелы на ўнутраным рынку, не імкнуцца канкураваць з Галівудам, бо гэтая мэта — на ўзроўні фантастыкі. Можна пачаць з серыялаў, кшталту расійскіх, для простага народа, але з беларускім каларытам. Калі ў краіне кіно будзе мець поспех, можна выходзіць далей, за яе межы. Кіно павінна быць шчырым. Мяне вельмі радуюць незалежныя позіркі маладых рэжысёраў, але ім не хапае фінансавання. Тым не менш ужо вядуцца размовы пра экранізацыю Быкава, здымаецца фантастычны «Неруш» па беларускай міфалогіі… Вось дзе наш шлях. Трэба прасоўваць сваіх герояў, і людзі будуць хадзіць на такія фільмы, бо ім гэта блізка, зразумела. Шкада, што на «Беларусьфільме» так і не звярнулі ўвагу на сцэнарый пра Янку Купалу. Чамусьці больш вузкая тэма ЛЭПу пераважыла.

**— Раман, чым захапіла вас прафесія акцёра, чаму не адпускае дагэтуль, нягледзячы на цяжкасці?**

— Мяне з трох гадоў адправілі ў тэатральную студыю, куды я хадзіў, пакуль не споўнілася шаснаццаць. Потым — гуманітарны ліцэй і нарэшце Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў. Прафесія акцёра цікавая тым, што вучышся ўсё жыццё, кожны дзень. Няма межаў прафесійнага станаўлення. Іншая справа — важна сустрэць педагога, які дапаможа паверыць у сябе, абудзіць у табе асобу акцёра, прагу да творчасці. Мае бацькі спартсмены, таму я таксама ў пэўны момант засумняваўся… Але сцэна перамагла. Яна валодае па-добраму наркатычнай сілай, зацягвае і не адпускае. Мне падабаецца, што можна пераўвасабляцца, пражываць, пераасэнсоўваць некалькі лёсаў за тыдзень і заставацца сабой. У сцэне, зараз я маю на ўвазе тэатр, крыху ўзнятай над залай, над рэчаіснасцю, ёсць сакральны сэнс. Мы мяняем свае ролі ўсё жыццё: калі становімся бацькамі ці шукаем іншае месца працы, захапляемся маляваннем ці сустракаем на сваім шляху каханага чалавека… Гэта не падман, а проста змена сцэнарыяў, рух. Толькі ў тэатры гэта ўсё ўмяшчаецца ў некалькі гадзін. Вось у чым магія. Прыцягальна яшчэ і тое, што ты валодаеш увагай людзей, быццам ілюзіяніст, і можаш праз ролю выказацца — часам не проста па сцэнарыі, а ад сябе.

**— Ці дапамагае прафесія ў зносінах з людзьмі? У сям'і? Акцёрскі шлюб — гэта партнёрства ці канкурэнцыя?**

— Акцёр апрыёры больш разняволены і лепш разбіраецца ў псіхалогіі, бачыць, хто заціснуты ў сябе, а хто адкрыты, абараняецца ці, наадварот, не супраць стасункаў. Табе не трэба перaадольваць сябе, саромецца, каб прывыкнуць да новага чалавека альбо кампаніі. Не ўсе, канечне, разумеюць нашу захапляльнасць, некаторым гэта нават падаецца нейкім вар'яцтвам (смяецца). З жонкай, Юліяй Кадушкевіч, мы працуем у розных тэатрах, таму пра канкурэнцыю і размова не ідзе. Калі разам іграем у спектаклі — гэта таксама толькі на карысць абодвум. Відаць, усё залежыць ад узаемаразумення. Акцёрскі шлюб складаны ў іншым — у кожнага бываюць моманты дэпрэсіі, калі цябе не заўважаюць, ты не бачыш перспектыў ці не адчуваеш натхнення. І важна, каб адзін у гэтым выпадку падтрымаў другога. Вось і ўвесь рэцэпт шчасця.

Марыя ВОЙЦІК

# Чалавечыя адносіны

## Сацыяльнае кіно як ключ да разумення грамадства

**Нам падабаецца бачыць сябе не толькі ў люстэрку, але і на тэлеэкране. І гэта добра. Гледзячы на сябе, усведамляеш, хто ты ёсць, заўважаеш уласныя памылкі, робіш высновы. Але, на жаль, кіно, дзе мы можам убачыць сябе, не так і шмат. У мастацкіх стужках, якія робяць у Галівудзе, наўрад ці пазнаеш сябе ці сваіх блізкіх — нам трэба сваё, роднае. І тут дапамагае сацыяльнае кіно — пра грамадства як яно ёсць, пра нас з усімі нашымі праблемамі, недахопамі і асаблівасцямі.**

### ВАЖНАЯ МІСІЯ

Майстэрня сацыяльнага кіно існуе ў Мінску 3 гады. Канстанцін Варабей, намеснік дырэктара майстэрні, верыць, як і ўся каманда, у тое, што «медыя і кіно больш за ўсё ўплываюць на чалавека». І гэта сапраўды так. У майстэрні не толькі ствараюць і паказваюць фільмы, але і вучаць рабіць іх: «Мы праводзім мерапрыемствы на тэмы, якія, можа, не вельмі цікавыя моладзі. Напрыклад, гандаль людзьмі. У кожным універсітэце чытаюць лекцыі на гэтую тэму, але мы ведаем, што эфект ад гэтага вельмі малы. Мы ж працуем праз культуру». Канстанцін кажа, што ў майстэрні яны вучаць рабіць відэа на не вельмі цікавыя тэмы, але з ідэяй, якая зрабіла б цікавай тэму. Праблема сацыяльнага кіно, напэўна, у тым, што ў большасці сваёй яно адкрыта дыдактычнае — а хто любіць, калі яго павучаюць? «Усе нашы праекты маюць сацыяльны кантэкст, але мы прытрымліваемся прынцыпу, што гэта трэба рабіць ненавязліва, тады і відэа атрымаецца карысным і цікавым».

Майстэрня сацыяльнага кіно пачынала з невялікіх відэаролікаў. Адна з серый — «Культура пачынаецца з цябе» — набыла надзвычайную папулярнасць у інтэрнэце: «Мы паказалі праблему — недарэчнасць сітуацыі, дзе беларусы адмаўляюцца ад вышыванак, айчынных песень. Культуру мы зрабілі, можа, даволі глянцавай, але паказвалі менавіта так, як трэба. Мы дэманстравалі залежнасць мовы ад кожнага сказанага беларускага слова, напоўнілі родным маўленнем увесь Мінск. Але і закранулі паняцце «культура» больш шырока. І зразумелі, што гэта і экалогія, і спорт, і выхаванне. Гэта быў наш першы крок, які атрымаўся». Паняцце «сацыяльнае кіно» наогул існаваць не павінна — так лічаць за мяжой. «Я быў на стажыроўцы ў Амерыканскай кінаакадэміі і спытаў, ці ёсць у іх такое паняцце — «сацыяльнае кіно». Аказалася, што там яго няма. Уся іх праца мае сацыяльнае напаўненне. Лічу, што да гэтага і нам трэба ісці: не трэба казаць, сацыяльнае кіно ці не, бо галоўнае ж — ідэя», — кажа Канстанцін.

Насамрэч любое кіно сацыяльнае. Нават у забаўляльных галівудскіх фільмах можна ўбачыць сацыяльны кантэкст. Але ўсё ж ці бачылі вы, каб хтосьці пайшоў мяняць свет, пагледзеўшы галівудскія стужкі? Канечне, кіно такой праблемы не вырашыць, але «яно аналізуе сацыяльны кантэкст, і гэта моцны сродак, які эмацыянальна ўплывае на чалавека, які можа давесці думку. Хоць мы адэкватна разумеем, што ад выхаду аднаго фільма ніхто не пойдзе мяняць экалагічную сітуацыю і не пачне размаўляць па-беларуску. Сацыяльныя змены адбудуцца, калі ў чалавека складзецца поўная карціна свету».

### ПОШУКІ ЦІКАВАГА

Будзем шчырымі, глядзець сацыяльнае кіно часам бывае сумна. Гэта разумеюць і самі рэжысёры. У Майстэрні сацыяльнага кіно з гэтым спрабуюць змагацца. Напрыклад, прапаноўваюць чалавеку паглядзець на сябе з іншага боку, праз прызму паказанай праблемы.

Зараз майстэрня робіць праект «Кінадыялог». Арганізатары запрасілі вядомых беларускіх дакументалістаў Віктара Аслюка і Вольгу Дашук, каб тыя навучылі маладых аматараў сацыяльнага кіно рабіць стужкі на важныя, але «зацухмоленыя і не вельмі цікавыя тэмы»: «Мы папрасілі вучняў зрабіць відэа на тэму «Ахвяры нацызму». Калі Віктар і Вольга прыйшлі да нас, то сказалі: «Вось вам рычачныя ўмовы. Мы таксама на такіх здымаем. А вам яшчэ пашанцавала — вам не далі канкрэтнага героя, таму тут картбланш». Маладыя рэжысёры навучыліся шукаць цікавае ў, здавалася б, нецікавым. І ўжо ёсць вынікі. Напрыклад, адзін хлопец выбраў героя, якога запрасілі да Папы Рымскага, калі той прыязджаў у Асвенцім, і рэжысёр ездзіў туды разам са сваім героем. Гэта тое, пра што казаў Аслюк, — латарэя, пашанцуе з героем ці не, усё залежыць ад таленту гуляць з сітуацыяй».

Як праект «Кінадыялог», а дакладней, яго вынікі, дапаможа пагледзець на сябе? Хаця б так, што мы зможам пераасэнсаваць тое, што адбывалася падчас Вялікай Айчыннай. Мы не любім аналізаваць, лічыць Канстанцін Варабей: «Таму і ўспрыманне сацыяльнай рэкламы вельмі цяжкае. Калі мы яе глядзім, найбольшую цікавасць выклікаюць іміджавыя, гламурныя ролікі, якія паказваюць не праблему, а нешта прыгожае. У нас грамадству не прапаноўваюць аналізаваць сацыяльныя з'явы, а навязваюць гатовыя рашэнні».

Адсюль і пытанне: а калі мы не зацікаўленыя ў аналізе саміх сябе, то ці цікавае нам сацыяльнае кіно ўвогуле? Канстанцін лічыць, што адносіны да сацыяльнай рэкламы і кіно — вынік таго, што рабілася раней: «У нас не вельмі добрае стаўленне да сацыяльнага з той прычыны, што якасць прадукту нізкая. Мы самі робім сацыяльную рэкламу, і не магу сказаць, што цалкам задаволеныя сваёй працай. Але калі спускаюся ў метро і бачу ролікі, якія зроблены няякасна, нецікава, я разумею, чаму чалавек так ставіцца да сацыяльнага. Мне падаецца, сацыяльнае кіно можа зацікавіць, калі яго прыгожа зрабіць. Грамадства не будзе глядзець кіно нецікавае: сацыяльная тэматыка зацісне гледача, калі ператворыцца ў прапаганду».

### ВЫКЛІКАЦЬ ЭМОЦЫІ

Нягледзячы на тое, што ў сацыяльным кіно і рэкламе беларускі глядач, можа, і не вельмі зацікаўлены, аднак у сацыяльным у шырокім сэнсе ён зацікаўлены вельмі моцна. Магчыма, сам таго не разумеючы. Варта ўзгадаць прыклад, калі ў 2013 годзе выйшаў кліп амерыканскага музыканта Фарэла Уільямса «Happy». Па ўсім свеце пачаўся сапраўдны флэшмоб: у многіх краінах відэа пачалі пераздымаць, паўтараючы кліп Уільямса. Так, гэта, магчыма, і не тое, што мы называем сацыяльнай рэкламай, але гэта паказчык таго, што мы гатовыя гаварыць пра сябе, паказваць сябе, у нейкім сэнсе аналізаваць сябе. То бок, у сацыяльным нас вельмі лёгка зацікавіць, што заўважае і Канстанцін Варабей: «У Беларусі спрацоўваюць такія кампаніі, якія ўзнімаюць настрой. Зразумела, у нас шмат праблем, таму нам не вельмі падабаецца, калі негатыву падлівае яшчэ і сацыяльная рэклама. Адпаведна стаўленне да такіх акцый больш лагоднае. Але ёсць праблемы, пра якія нельга распавядаць у такім ключы. І калі ёсць магчымасць паказаць пазітыўны бок у сацыяльнай рэкламе, то гэта трэба рабіць! А калі няма — прабіваць кранальнай эмоцыяй».

Так, кіно — моцны эмацыянальны інструмент. Водгук гледача тут не толькі неабходны, але і абавязковы, асабліва для сацыяльнага кіно: «Калі мы не будзем атрымліваць водгуку, то не зразумеем, для каго працуем. Мы сочым за водгукамі ў інтэрнэце, колькасцю праглядаў. Гэта сведчанне таго, што ролік чапляе. Але важна памятаць, што глядач — асобна, крытыкі — асобна. Для кожнага адзін і той жа фільм раскрыецца па-рознаму, таму і зрабіць агульную выснову па адной стужцы немагчыма».



*Кадр са здымак праекта «Культура пачынаецца з цябе».*

### ПРАБЛЕМНЫЯ ПЫТАННІ

Часам рэжысёр і сам не ведае, што хоча сказаць, а гледачы дапамагаюць яму знайсці адказы. Сацыяльнае кіно — той выпадак, калі глядач, акрамя адказаў на пытанне «пра што кіно», павінен зрабіць яшчэ і высновы: навошта гэта трэба. Сацыяльныя стужкі выхоўваюць грамадства, робяць яго больш актыўным і адкрытым: «Калі з'явіўся трэнд з вышыванкамі, ніхто і не думаў, што з невялікага кроку народзіцца такая папулярнасць. Таксама і тут — усё залежыць ад эмоцый. Справа ў тым, што перад сацыяльным кіно стаіць цяжкая задача: трэба зачапіць як мага большую частку грамадства. Мы не ставім сабе задачу змяніць свет сваімі відэа. Гэта ў нас на ўзроўні місіі».

Кіно не можа вырашыць глабальныя праблемы. Яно ўвогуле не вырашае, а падштурхоўвае чалавека да гэтага. Сацыяльнае кіно — штуршок, напэўна, самы моцны: «Адна з задач такога кіно — каб чалавек, пагледзеўшы, падумаў, што трэба іншага чалавека паважаць. Мы працавалі са школамі і бачылі вынікі адукацыі там. Калі дзеці выхоўваюцца ў асяроддзі, дзе пра адны праблемы кажуць, а пра іншыя — не ўзгадваюць, з гэтым трэба нешта рабіць. Сацыяльнае кіно можа закрануць нешта ў душы, але цалкам змяніць пагляд — наўрад ці. Мы зараз працуем над тым, каб паказваць школьнікам сацыяльнае кіно, распавядаючы і пра яго вытворчасць».

Майстэрня сацыяльнага кіно не рэкламуе прафесію, але ж Канстанцін лічыць заахвочванне школьнікаў да рэжысуры магчымым: «Калі ў ЗША быць рэжысёрам — крута, то ў нас пра гэта мала хто гаворыць. Канечне, ёсць тыя, хто хоча займацца кіно і медыя, але далучаць да кіно — хутчэй наша мара. Як і прывівацы кінагуст. Я быў здзіўлены, што ў Амерыцы гэтым займаецца кінаакадэмія «Оскар». Яны прыводзяць у школы рэжысёраў, паказваюць там іх фільмы і размаўляюць. Гэта цікавы досвед, які мы хочам, а галоўнае, можам пераймаць».

Маладыя беларускія рэжысёры здымаць сацыяльнае не вельмі хочуць. Такое кіно — свайго роду абмежаванне. Яно ў многіх выпадках ствараецца ва ўмовах рынку, па замове: «Маладыя не жадаюць здымаць у межах. Перад рэжысёрамі стаіць выбар: рабіць мастацкае кіно, якое хочацца, або інфармаваць, як таго хоча замоўца. Калі рэжысёр не знаходзіць баланс, то будзе незадаволены або ён сам, або яго замоўца. Будзем шчырымі: мала ў каго з маладых ёсць магчымасць здымаць тое, што яны хочуць. На гэта патрэбныя сродкі, таму часам даводзіцца ісці на здзелку з сумленнем і рабіць кіно, якога патрабуе рынак».

### ПАГЛЫБІЦЦА Ў СЯБЕ

Але грашовае пытанне — не адзіны складнік кіно. Канстанцін кажа, што «першае — ідэя. Дзякуючы ёй, можна сабраць каманду. Калі людзі аб'яднаныя адной думкай, ім нашмат лягчэй. Досвед таксама можна атрымаць. Вось калі не будзе ідэі, але будуць грошы — будзе правал, а калі наадварот — штосьці абавязкова атрымаецца».

Паўнаметражныя стужкі Майстэрня сацыяльнага кіно пачала рабіць толькі праз 2 гады пасля стварэння. Зараз здымаецца фільм пра хатні гвалт, які выйдзе ў канцы жніўня: «Гэта тая тэма, якую можна перадаць праз кіно. Было цяжка, бо сацыяльнае кіно ўсё ж іншае — трэба было зразумець тэму і паглыбіцца ў яе. А гэта было нялёгка. Наш сцэнарыст нават сказала: «Думаеш, што гэта нешта нерэальнае, а калі чытаеш такія гісторыі, то быццам бачыш баявік». Мы даследавалі гісторыю жанчыны, якая сама абараняе свайго гвалтаўніка: сітуацыя кшталту "стакгольмскага сіндрому"».

У Майстэрні сацыяльнага кіно вялікія планы: праца над фільмам, новыя вучэбныя праекты, дамоўленасці аб супрацоўніцтве з Амерыканскай кінаакадэміяй (у гэтым, зразумела, трэба быць рэалістамі).

Калі ў Амерыцы ўсё кіно сацыяльнае, то ў нас і тое сацыяльнае, што ёсць, амаль немагчыма пабачыць. Хіба толькі на некаторых фестывалях. Але ад прапановы стварэння фестывалю сацыяльнага кіно Канстанцін Варабей адмаўляецца: «Мне падаецца, не трэба ствараць «гета». А вось секцыю на фестывалі — можна. Трэба падтрымліваць канкурэнтаздольнасць сацыяльнага кіно. Пакуль яно не будзе роўным з ігравым кіно, з моцным прадуктам, яго ніхто не будзе глядзець».

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Viva Italia, Viva Belarus!

**Хто не бываў у Італіі, той, магчыма, не бачыў самага галоўнага ў гэтым свеце!.. «Увидеть Париж и…», «Стамбул — город контрастов», «Нью-Ёрк — сталіца свету»… Колькі яшчэ ў нашай свядомасці культуралагічных, нават цывілізацыйных штампаў, якія ў пэўным сэнсе адпавядаюць рэальнасці і часткова містыфікуюць яе. Але «Музей пад адкрытым небам» — Італія — з'яўляецца не містыфікацыяй, а сапраўды цудам з цудаў гэтага свету! Яе сярэднявечныя і рэнесансныя Фларэнцыя і Венецыя былі ў тыя часы сусветнымі сталіцамі, цэнтрамі культуры і цывілізацыі, куды імкнуліся, на што арыентаваліся… Пра гэта, напэўна, — на мармуровай пліце з Мірскага замка, дзе напісана «Гэта мая Італія». Пра гэта сведчаць і тысячы-мільёны іншых рэмінісцэнцый і сентэнцый пра Італію — найлепшую і непаўторную!**



*Беларускія музыканты ля пахавання М.-К. Агінскага ў базіліцы Санта Крочэ.*

Туды імкнуліся ўсе вялікія з іншых краін, ёю натхняліся ўсе геніяльныя, мераючы крокамі антычныя вуліцы, дзівячыся гатычным і рэнесансным шэдэўрам, здзіўляючыся бясконцасцю і багаццем барочных фантазій, смакуючы водар старадаўніх садоў і паркаў, захапляючыся культурай Рамантызму і шматграннай сучаснасці…Туды ехалі ў папскі Рым прадстаўляць свае краіны князі, курфюрсты і каралі; усімі дарогамі ішлі пілігрымы ў духоўныя цэнтры, а ў самыя старадаўнія і лепшыя еўрапейскія ўніверсітэты спяшаліся выдатныя прадстаўнікі розных народаў…

Туды лятуць, едуць, плывуць турысты з эпохі Рэнесансу. Самым знакамітым нашым земляком, турыстам-пілігрымам тады быў малады нясвіжскі князь Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка — будучы натхнёны Італіяй знакаміты стваральнік «ідэальнага горада» Нясвіжа. Рэнесансная сталіца Радзівілаў з раннебарочным фарным касцёлам — адным з самых першых у свеце храмам Барока, сама стала крыніцай натхнення многіх творцаў і «маленькім Рымам для турыстаў» у Беларусі, як і яе прататып — Італія… Адзінаццаць мільёнаў турыстаў за год толькі ў адной Венецыі — унікуме з усіх унікальных гарадоў-музеяў свету. Туды едуць, таму што там бачаць і адчуваюць не «навадзел», а сапраўдныя старадаўнія аўтэнтычныя помнікі, якія людзі рупліва зберагаюць, засцерагаючы ад неспрыяльных умоў, салёнай вады, цэнячы кожную старую цаглінку, брус, металічную кованку-драбніцу!

Пра ўсё гэта думалася салістам беларускага ансамбля «Вытокі» Ірыне Аўдзеевай, Сяргею Махаву і аўтару гэтых радкоў, якія сёлета пачалі свае працяглыя вандроўкі па Італіі. Ідэя музычнага падарожжа нарадзілася падчас кульмінацыйных мерапрыемстваў фэсту «Год Агінскага ў Залессі» ў 2015 годзе, які засакавалі «Вытокі» ў былой княжацкай рэзідэнцыі, адрэстаўраванай ужо ў якасці сядзібы-музея Агінскіх. 10 музычных праграм, якія ансамбль прадставіў у Залессі і Мінску, а таксама ў Літве і Польшчы, і 10 экскурсійных тэматычных маршрутаў па Беларусі, прысвечаных Агінскім і падрыхтаваных да юбілею Міхала Клеафаса, падштурхнулі да ідэі ўшанаваць нашага вялікага земляка там, у далёкай Фларэнцыі, дзе ён марыў пра Радзіму, дзе быў створаны апошні паланэз і дзе яго душа ўзнеслася на неба…

Пра канцэрт у Фларэнцыі, у славутай базіліцы Санта Крочэ, пад купалам капэлы, створанай італьянскім геніем Брунелескі, дзе беларускія калектывы яшчэ ніколі не выступалі, можна распавядаць бясконца. Разам з галоўным Домскім саборам Фларэнцыі базіліка Святога Крыжа займае выключнае месца сярод іншых шэдэўраў італьянскага «Горада-Кветкі». Унікальны ансамбль гатычнай архітэктуры, жывапісу і пластыкі, расквечаны элементамі рэнесансу і барока, цудоўны не толькі сам па сабе. Тут сфарміраваўся сапраўдны маўзалей геніяльнасцей. У базіліцы ўдастоіліся завяршыць свой зямны шлях каля 300 найвялікшых талентаў і геніяў Італіі і іншых краін. (Дарэчы, тут спачывае вялікі кампазітар Джаакіна Расіні.) Сярод іх, на асабліва адметным месцы, у найбліжэйшай да алтарнай апсіды капліцы — выдатны помнік нашаму славутаму земляку, дыпламату і кампазітару, князю і грамадзяніну сваёй краіны Міхалу Клеафасу Агінскаму. Гэтае вельмі важнае месца базілікі Санта Крочэ, як падкрэсліла для нас навуковы куратар сабора, паказвае значную ролю нашага героя ў гісторыі і культуры Еўропы… Гукі яго музыкі ў храме зноў сталі актуальнымі, звязалі, аб'ядналі ў адным месцы розную геаграфію, розныя эпохі і лёсы, закранулі сэрцы слухачоў і, здавалася, расчулілі нават каменную музу каля яго помніка...

Былі і іншыя выступленні ансамбля, творчыя сустрэчы, напрыклад, у Падуанскім універсітэце, для якога «Вытокі» падрыхтавалі праграму нашай самай даўняй музыкі XVI ст., беларуска-італьянскі канцэрт у гонар будучага юбілею Бібліі Скарыны і ўсяго ўсходнееўрапейскага кнігадрукавання…

Падчас вандраванняў шляхамі Агінскіх, Міколы Гусоўскага і Францыска Скарыны ў Італіі ўдалося выявіць і некаторыя іншыя факты і артэфакты, звязаныя з Беларуссю. Так, напрыклад, у адной са старажытных залаў Падуанскага ўніверсітэта мы знайшлі герб Радзівілаў, які яшчэ не зафіксавалі беларускія даследчыкі славутага роду. Гэтая зала без вокнаў — па сутнасці, навуковая лабараторыя пры анатамічным тэатры лепшага ў свеце ўніверсітэта ў галіне медыцыны. Туды дапускалася вельмі абмежаванае кола навукоўцаў і студэнтаў. Як высвятляецца, наш нясвіжскі князь Ян Юрый Радзівіл (сын згаданага на пачатку Радзівіла Сіроткі) у 1620-х гадах быў не толькі адным з «абраных» вучыцца там медыцыне, але і ўганараваны мемарыялізацыяй сваёй прысутнасці фамільным гербам на славутых старажытных сценах. Асоба з пакручастым лёсам, вартая новага Дзюма… А ў вольны ад навукі і вучобы час Радзівіл таксама падарожнічаў па Італіі, фехтаваў і іграў на лютні...

Культуралагічныя і асветніцкія ідэі ансамбля салістаў «Вытокі» даволі хутка знайшлі падтрымку ў Міністэрстве замежных спраў Беларусі ў намесніка міністра Алены Мікалаеўны Купчынай і ў пасла Беларусі ў Італіі Аляксандра Яўгенавіча Гур'янава, якія праніkліся важнасцю гэтага праекта для беларускай культуры і ўмацавання сяброўскіх культурных сувязей паміж нашымі краінамі.

Варта ўзгадаць і руплівцаў нашай культуры, працай і даследаваннямі якіх ажывае памяць пра старажытны беларускі арыстакратычны род Агінскіх, пра Міхала Клеафаса, які паяднаў сваім лёсам і творчасцю, спадчынай і нашчадкамі ўжо тры народы. Гэта класік беларусістыкі, доктар філалогіі, прафесар Адам Мальдзіс, «першая скрыпка» сярод даследчыкаў беларускай музыкі, прафесар, доктар мастацтвазнаўства Вольга Дадзіёмава, заслужаны артыст і выдатны музычны асветнік Беларусі Віктар Скорабагатаў, мастак-рэстаўратар, зберагальнік і ратавальнік Залесся ў самыя цяжкія для сядзібы гады Сяргей Верамейчык, дзяржаўны руплівец, аўтарытэтны дыпламат і выдатны дзеяч культуры Уладзімір Шчасны, стваральніца прыгожай і змястоўнай экспазіцыі сядзібы-музея Зінаіда Кучар, аўтар найбольш разгорнутых даследаванняў пра Міхала Клеафаса, манаграфіі пра яго, кандыдат мастацтвазнаўства Святлена Немагай, маладзечанскае шырокае кола агіталюбаў і папулярызатараў яго спадчыны на чале з дырэктарам музычнага каледжа Рыгорам Сарокам. Неабходна ўзгадаць многіх нашых сяброў па той бок мяжы, асабліва выдатнага даследчыка і энтузіяста, дырэктара Рэтаўскага музея Агінскіх Вітаса Руткаўскаса. Дзякуючы ім, праз вяртанне да нас спадчыны Міхала Клеафаса збліжаюцца зноў і нашы народы, і нашы культуры, якія адкрываюць большую глыбіню і высокія перспектывы.

**Аляксей ФРАЛОЎ,**
**мастацкі кіраўнік**
**Ансамбля салістаў «Вытокі».**

**ВыДАТна**

# Хор як арганізм

## пад кіраўніцтвам народнай артысткі Беларусі Ніны Ламановіч

Пайсці ў оперу, каб паслухаць хор? Чаму і не, калі ёсць настолькі маштабныя творы, у якіх галоўны вобраз народа (напрыклад, «Хаваншчына», «Набука» «Аіда» і інш.) закладзены ў музыцы: калі шыкоўныя харавыя партыі здольныя паказаць пакуты і надзеі, перадаць драматызм сюжэтнай лініі. Хор у оперы можа стаць асобным дзеючым персанажам — і такое мы бачым часта ў пастаноўках Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета. І калі можна хадзіць у оперу на выдатнага саліста, то, адпаведна, і дзеля спеваў цудоўнага хору таксама. А некаторыя спектаклі на хоры трымаюцца. Хор павінен быць вельмі прафесійны, існаваць нібыта адзіны арганізм, у якім усе клетачкі-часцінкі спалучаюцца, але кожная выконвае сваю нагрузку, калі ёсць устаноўка, сэнс, мэта, некім зададзеная. Напрыклад, хормайстрам. Хорам беларускай оперы ўжо 40 гадоў кіруе Ніна Ламановіч.

Яна ім фактычна жыве: з 25 гадоў служыць у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі, куды прыйшла пасля заканчэння Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Усё жыццё — у адным тэатры, іншых месцаў працы не шукала. З 1993 года з'яўляецца галоўным хормайстрам Вялікага тэатра Беларусі. Мэту мела толькі адну — каб хор тэатра мог выконваць самыя смелыя мастацкія задачы: дэманстраваў высокую культуру выканання музыкі, мог справіцца са складанымі партытурамі і адначасова іграць сваю ролю ў спектаклі, выконваючы арыгінальныя задумкі рэжысёра, нягледзячы на тое, што артысты хору, калі трэба, яшчэ працуюць і як салісты. Нездарма некаторыя вядомыя артысты (нават нашага тэатра) пачыналі сваю кар'еру ў хоры. Высокі ўзровень хору беларускага опернага тэатра дае магчымасць калектыву выступаць за межамі Беларусі. Якасць выканання фактычна ў руках хормайстра. Ніна Ламановіч вызначае кадравы склад хору, настрой, з якім артысты выходзяць на сцэну. У гэтыя дні народная артыстка Беларусі Ніна Ламановіч адзначае 65-ы дзень нараджэння. І як галоўны хормайстар тэатра рыхтуецца да адкрыцця тэатральнага сезона.

**Марыя АСІПЕНКА**


*Ніна Ламановіч.*

# Адчуць гукі прыроды

## разам з мастакамі Беларусі, Літвы і Арменіі



*Твор Тамары Сакаловай.*

Жыць на зямлі — вялікае шчасце. Гэта магчымасць убачыць на ўласныя вочы ўнікальныя з'явы, цуды, якімі багата прырода. Нягледзячы на тое, што зямны шар падзелены межамі дзяржаў, ён застаецца цэласным, аб'ядноўвае народы, лёсы людзей. Канечне, у кожнай дзяржавы ёсць асаблівасці і адметнасці, але ва ўсіх агульны дом. Тэму адзінства вырашылі асэнсаваць знутры восем мастакоў з Беларусі, Літвы і Арменіі. Замест таго, каб проста на прыкладах жывапісных работ паказаць, як пераклікаюцца рысы ў менталітэце, прыродзе, інфраструктуры гарадоў розных краін, маладыя аўтары капнулі глыбей, прадэманстраваўшы ў галерэі сучаснага мастацтва «Ў» разнастайныя кампазіцыйныя творы, якія суправаджаюцца гукавым афармленнем і, на погляд мастакоў, аб'ядноўваюць зямлю. Выстаўка падрыхтавана ў выніку экспленэру «Прырода гуку». Мастакі сур'ёзна паставіліся да праекта і паразважалі над тым, наколькі правільнае і ўважлівае ўспрыманне гуку чалавекам спрыяе далкаднаму разуменню працэсаў у асяроддзі і яднанню тэрыторый.

Перад адкрыццём выстаўкі мастакі каля васьмі дзён пражылі ў лесе, дзе гукі ўспрымаюцца на ўзроўні класікі — сур'ёзна і з мурашкамі па скуры. Паколькі беларускія мастакі *Bazinato*, Сяргей Белавокі, Алеся Галота, Ігар Корзун, Тамара Сакалова і Вікторыя Харытонава ведаюць, што наша прырода — скарбніца ўнікальных з'яў, то і дапамагалі гасцям з Літвы і Арменіі адчуць моцнае ўздзеянне таго, што адбываецца вакол. У сваю чаргу, Марыя Гарнак (Літва), Лена Танкачова (Літва) і Цолак Тапчан (Арменія) аналізавалі і параўноўвалі гук беларускай прыроды з роднымі матывамі. Больш чым тыдзень мастакі разважалі пра гук у прыродзе, яго рытм і функцыю. Цікавіліся і гукамі, якія існуюць побач з прыродай, напрыклад, тарахценне трактара, мыканне каровы альбо моцны гук, калі хтосьці сячэ дрэвы каля вясковай хаты.

У мастакоў не было абмежаванняў, таму да творчасці яны змаглі падысці па-рознаму. Завітаўшы на выстаўку, вы ўбачыце не толькі жывапісныя работы, але і фотаздымкі, кароткія відэазамалёўкі, аўдыявізуальную паэзію, скульптурныя кампазіцыі, створаныя з прыродных матэрыялаў. Амаль да кожнай жывапіснай работы прыкладаюцца навушнікі. Скарыстаешся імі — і пачуеш самыя рамантычныя гукі беларускіх мясцін: тут стракатанне цвыркуноў, шум летняга лесу, гукі, якімі рыба насычае азёры і рэкі… Ёсць і работы, якія параўноўваюць шум прыроды з шумам арганізма чалавека. Напрыклад, мастачка Марыя Гарнак паказвае, што калі ў жыцці чалавека знікаюць гукі, ён пачынае слухаць сваё цела, якое нагадвае яму цэлы свет: шум сасны чуецца з жывата, ад вен чуваць гук бягучай вады, а гук ветру — з паверхні скуры. Здаецца, адкрыта пытаючы гледача наконт тоеснасці арганізма і прыроды, мастачка канцэпцыяй твораў рыхтуе глебу, каб адказ быў абдуманы і асэнсаваны. Цікавасцю экспазіцыі з'яўляецца скульптура Алесі Галоты, якая візуальна паказвае, як выглядае гук. Аўтар дэманструе некалькі разнастайнасцей гукаў. Ёсць простыя, якія так і выглядаюць, а ёсць такія, што рэжуць слых. Ёсць меладычныя, спакойныя і такія, што набываюць гучнасць па ўзрастанні. Тут сапраўды ёсць над тым паразважаць, бо выгляд гукаў максімальна падабраны пад яго апісанне.



*Ігар Корзун «Дакраніся да гуку».*

Важна, што аўтары выстаўкі змаглі паказаць, наколькі гукі аб'ядноўваюць і як іх асаблівыя ноткі становяцца сувяззю, што дае магчымасць чалавеку адчуць сябе блізкім да прыроды. Удзельнікі выстаўкі сталі незвычайнай інтэрнацыянальнай мастацкай суполкай, сябрамі, якія падчас праекта знайшлі агульныя рысы ў менталітэце сваіх краін, якія зразумелі, што аднолькава мысляць на тэму захавання прыроды і развіцця родных традыцый. А галоўнае — глыбока адчулі гукі ўнікальных працэсаў як асяроддзя, так і жыцця.



*Кадр з відэа Цолака Тапчана.*

**Вікторыя АСКЕРА**

## Культурны ракурс



Цікавы сваёй гісторыяй і велічнасцю палац Радзівілаў у Нясвіжы, але не меншай увагі заслугоўваюць і паркі Нясвіжа. Забудова комплексу не абмяжоўвалася толькі замкам, уладальнікі якога актыўна выкарыстоўвалі асяроддзе. Яшчэ ў 1585 годзе князь Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка меў летнюю сядзібу Альба на тэрыторыі сучаснага парку, а яго нашчадак Караль Радзівіл Пане Каханку загадзе непадалёку ад замка высечы агромністы лес і на яго месцы стварыць пацяшальны палацава-паркавы ансамбль — сённяшні паркавы комплекс «Альба».

Цяпер вакол замка знаходзіцца 5 паркаў, якія ўяўляюць непарыўны маршрут: Стары парк, або Азяры; Японскі парк, або Плінтоўка; Новы, або Марысін, парк; Англійскі парк, ці Іпадром; Замкавы парк, ці парк Антонія. Паркі цікавыя атмасферай мінулага. Шматлікія скульптуры і абеліскі, расстаўленыя па маршруце, нагадваюць пра нясвіжскія легенды. Дарэчы, узнікненне сучаснага паркавага комплексу звязана з імем Марыі дэ Кастэлян, жонкі Антонія Радзівіла, якая кіравала будаўнічымі работамі.

Стары парк, закладзены ў 1878 годзе, лічыцца адным з самых цікавых. Тут захаваліся стагадовыя дрэвы, што надае яму таямнічы выгляд. У парку знаходзіцца памятны каменьвалун (вядомы як камень жаданняў), пастаўлены ў 1903 годзе ў гонар Марыі дэ Кастэлян яе ўдзячным мужам Антоніем Радзівілам XIV.

Ландшафтныя кампазіцыі Старога парку будуюцца на трох паслядоўна размешчаных палянах: Спартыўнай, Цэнтральнай і Выставачнай. Паляны злучаны алеямі-дарожкамі і ўтвараюць своеасаблівую анфіладу зялёных залаў, у аздабленні якіх удзельнічае велізарная колькасць дрэў, хмызнякоў і кветак. Перад Спартыўнай палянай з левага боку быў створаны штучны вадаём. На валуне ў люстраной сажалцы ўсталяваная скульптура русалкі. На Цэнтральнай паляне можна ўбачыць помнік сабаку, які, паводле легенды, падчас палявання выратаваў жыццё гаспадару, але сам загінуў.

У пачатку 90-х у парку была створана Алея Памяці, уздоўж якой размясціліся бронзавыя бюсты людзей, якія прысвяцілі сваё жыццё Нясвіжу і беларускай зямлі.

**Таццяна НЯДЗЕЛКА**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*


Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК





Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 25.08.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1633.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 3021

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12




ISSN 0024-4686